ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

6 студзеня 1995 г. № 1 (3773) Кошт 200 руб.







## ЭХ, КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ...

*Святыя й святочныя дні напрыканцы ды на пачатку года для беларусаў падвойваюцца. Божыя народзіны, супраць усіх зямных ды нябесных завядзёнак-правілаў, надараюцца ў нас двойчы: 25 снежня ды 7 студзеня. Падваенне ці раздвоенасць? Праява загадкавасці менталітэту ці старасвецкая недарэчнасць?*

*Між тым свята — адно, толькі дойжыцца нязвыкла. Ці будзем калі святкаваць так, як вымагае веліч падзеі? Каб хоць паміж дваццаць пятым ды сёмым пачувацца ў празрыстым душэўным спакоі ды ў гуморы, зважаючы толькі на самую ўзнёслую сваю залежнасць — ад Нованароджанага Немаўляці ды ягоных зямных паўтораў — нашых дзяцей...*

*...Трывалыя, зямныя радасці нашых Калядаў абнадзейваюць. Угледзьцеся ў твары ды аблічча...*

*Фота Віктара ДРАЧОВА*



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Прырода быццам забылася на свае спаконвечныя законы, на той час, калі лета было летам, а зіма — зімою. Цяпер жа не даўмецца, што на дварэ. Цісакнуў быў нарэшце марозік, выпаў сняжок і зарыпеў пад абцасам, але — ці доўга? Пад Новы год ад яго і следу не засталося, хлюпата вакол была такая, што не ступіць.***

***Ды ўсё ж ёсць надзея, што зіма яшчэ возьме сваё: будуць і маразы сапраўдныя (ужо Маладзік прывёў), і завірухі-мяцеліцы.***

***А вось наконт нашай эканамічнай стабілізацыі такой надзеі, бадай, няма. Няма, нягледзячы на запэўніванні высокіх дзяржаўных асоб, што сёлетні год "будзе паваротным у пераадоленні крызісу", што "наш многострадальный народ почувствует облегчение"... Не пра тое сведчаць прыціхлыя заводы, што вымушаны былі адпусціць рабочых на працяглыя калядныя канікулы, увядзенне картак на масла, людская безнадзейнасць атрымаць жыллё, штодзённы, няспынны, няўхільны рост цэн...***

## ПАГАДНЕННЕ ТЫДНЯ

У Бруселі парафіравана пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю. Кіраўнік аддзела ЕС па развіцці адносін з краінамі СНД Ф. Фаціядзіс заявіў карэспандэнту Белінфарма, што Савет ЕС высока ацаніў новую палітычную сітуацыю ў Беларусі і жаданне новых улад прытрымлівацца палітычных, эканамічных рэформ. Дай Божа, як кажуць! Толькі — як тады разумець тэлеінтэрв'ю генеральнага дырэктара "Амкадора" сп. Шлындзікава аб тым, што рэформы як не ішлі, так і не йдуць, што пра іх больш гавораць, чым ажыццяўляюць?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Цяпер, як ніколі за апошнія стагоддзі, гісторыя дала нам, беларусам, рэальны шанц змагацца не за польскую ці рускую дзяржаўнасць, а стварыць сваю беларускую дзяржаву, у чым і ёсць галоўны сэнс беларускай нацыянальнай ідэі, пра якую марылі і за якую змагаліся лепшыя беларускія дзеячы. Трэба зразумець і кіраўнікам краіны, і людзям нашым, асабліва тым, хто сумуе па былым СССР, што гісторыя заўсёды рухаецца наперад, паўтарэння яе не можа быць, таму і рэанімацыя Саюза ў старым выглядзе немагчыма, а адсюль чым хутчэй мы пойдзем самастойным шляхам, тым бліжэй да нас будзе моцная беларуская дзяржава. Ды і просты чалавек, якога больш за ўсё хвалюе дабрабыт і нармальнае, людскае жыццё, таксама павінен зразумець, што ўсяго гэтага лягчэй дасягнуць у невялікай ці сярэдняй краіне, а не ў стракатым монстры, які раздзіраецца тысячамі цэнтрабежных супярэчнасцей".

*(Р. Гарэцкі. Стартавыя ўмовы ёсць. Патрэбны розум і канструктывізм мыслення. "Звязда" за 3 студзеня г. г.)*

## ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Пра яго паведаміла ў аўторак газета "Добры вечар". Мінчанін Б., які ваяваў, а пасля 47 год працаваў, атрымаў 123 чэкі "Маёмасць". Абменьваць іх на акцыі і чакаць дывідэндаў не стаў — не мае надзеі дачакацца, узяў ды прадаў іх. Па 1200 рублёў. Атрымаў 147600 "зайчыкаў". Набыў за іх 6 абанементаў у пральню самаабслугоўвання. У выніку не стрымаўся, напісаў ліст у газету, каб атрымаць адказ на пытанне: "Ці то маёмасць у нас такая танная, ці то паслугі пральні вельмі дарагія?"

## НАМІНАЦЫІ ТЫДНЯ

Напярэдадні Новага года былі вызначаны пераможцы эстраднага конкурсу "Фаварыты года-94". Лепшымі выканаўцамі журы назвала І. Афанасьеву і А. Саладуху. Адкрыццём года стала маладая салістка студыі "Верасы" І. Дарафеева. Паэт і прадзюсер М. Трацякоў стаў пераможцам у намінацыі "Паэт года"(?!), а аўтар многіх шлягераў А. Елісеенкаў — у намінацыі "Кампазітар года". "ЛіМ" таксама далучаецца да віншаванняў.

## АДЛУЧЭННЕ ТЫДНЯ

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку" ў сёлетнім годзе адмовілася друкаваць газеты "Свабода", "Фемида", "Белорусская деловая газета", "Газета Андрея Климова" і яшчэ чатыры прыватныя выданні. Прычына адмовы — нястача вытворчых магутнасцей. Што на гэта сказаць? Хіба толькі — пушкінскім радком пра аднаго пляменніка, які "и лучше выдумать не мог"...

## "ХУЛІГАН" ТЫДНЯ

4 студзеня ля будынка Дома ўрада быў выстаўлены пікет у абарону свабоды друку, у прыватнасці, газеты "Свабода". Адзін з удзельнікаў пікетавання быў затрыманы і тут жа асуджаны на 5 сутак арышту. Ім аказаўся старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны прафесар Мікола Савіцкі. За што? Дайце веры: за хуліганскія дзеянні. Хто наступны будзе аб'яўлены хуліганам? Пэўна, акадэмік. Ці зажывём мы калі-небудзь па-людску?

## "РЭКОРД" ТЫДНЯ

Сусветная арганізацыя аховы здароўя паведаміла, што днямі ў свеце зарэгістравана мільённая ахвяра чумы XX стагоддзя СНІДу. Выказваецца меркаванне, што сапраўдная колькасць хворых дасягае чатырох з паловай мільёнаў чалавек, толькі яны, на жаль, не зарэгістраваны. Гэтае паведамленне супала па часе з паведамленнем аб тым, што хворы на СНІД выяўлены ў нашых Бешанковічах. Бяда пачала прыходзіць і ў невялікія населеныя пункты?

## ПАЧЫНАННЕ ТЫДНЯ

Друк паведамляе, што ў горадзе летувіскіх атамшчыкаў Вісагінасе ў адной са школ адчыніўся першы клас з навучаннем на беларускай мове. У ім пакуль што 14 вучняў. Прадугледжана і вывучэнне дзяржаўнай — летувіскай мовы. Для таго, каб дзеці дасканала авалодалі і адной, і другой мовамі, частка прадметаў будзе выкладацца на роднай (беларускай) мове, а другая частка — на дзяржаўнай (летувіскай). Разумна?

## АНЕКДОТ ТЫДНЯ

Да адэскага ювеліра прыходзіць кліент і просіць раскалоць алмаз. Ювелір пакруціў яго ў руках і крычыць: "Ванька, хадзі сюды!" Прыходзіць Ванька, і гаспадар просіць яго раскалоць каштоўны камень. Ванька хапае нож і рассякае алмаз. Але ў гэты час кліент траціць прытомнасць. Калі ён ачуньвае, дык пытаецца: "Сэр, я ж звяртаўся да лепшых ювеліраў Амстэрдама, Парыжа, Вашынгтона, Лондана — і ніхто не браўся раскалоць алмаз, баяліся, што ён рассыплецца на дробныя друзачкі". А ювелір яму адказвае: "Сэр, вы ведаеце кошт гэтага алмаза, я ведаю ягоны кошт. А Ванька — не. У яго рука не здрыганулася". Вось так і ў нашай прэзідэнцкай каманды.

*(Анекдот ад Станіслава Шушкевіча. "Вечерний Минск", 2 студзеня г. г.)*

Віншуем!

# ПАСТАНОВА

## ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1994 ГОДА Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Зацвердзіць рашэнне Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры і прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь 1994 года:

**У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ**

**імя Янкі Купалы**

**Баравіковай Раісе Андрэеўне** — за кнігу паэзіі "Люстэрка для самотнай" (вершы, пераклады, паэма "Барбара Радзівіл").

**імя Кастуся Каліноўскага**

**Жданоўскаму Міхаілу Андрэевічу**, рэжысёру, — за створаныя на кінастудыі "Беларусьфільм" дакументальныя фільмы "Дарога на Курапаты", "Жаўрукі Беларусі", "Успамін пра Міколу Равенскага".

**За творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва**

**Юрэвічу Уладзіміру Міхайлавічу** — за навукова-папулярную кнігу "Слова жывое, роднае, гаваркое..."

**У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ**

**Мяснікову Анатолію Фёдаравічу** — за кнігу "Нацдэмы". Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка".

**У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

**Захлеўнаму Леаніду Канстанцінавічу**, кампазітару, — за песні апошніх гадоў (1990—1994) і зборнік песень для дзяцей "Вераснёвы вальс".

**Алоўнікаву Ігару Уладзіміравічу**, піяністу, — за канцэртныя праграмы 1991—1993 гадоў (фартэпіяна).

**У ГАЛІНЕ ТЭАТРА І КІНО**

**Бандарэнку Андрэю Васільевічу**, кампазітару, — за оперу "Князь Наваградскі", пастаўленую ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета.

**Мажэйка Зінаідзе Якаўлеўне**, аўтару сцэнарыяў, **Савва Ніне Пракопаўне**, рэжысёру, **Шкляраўскаму Алегу Іванавічу**, аператару і рэжысёру, — за стварэнне цыкла музычна-этнаграфічных кінафільмаў (студыя "Беларусьфільм") "Палескія калядкі", "Галасы вякоў", "Памяць стагоддзяў", "Палескія вяселлі", "Пранясі, Божа, хмару", "Крывыя вечары".

**У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА**

**Тоўсціку Уладзіміру Антонавічу**, мастаку, — за серыю жывапісных работ "Святло і цені" і трыпціх "Спадчына".

2. Устанавіць у 1994 годзе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ў памеры 100 мінімальных заработных плат.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь** — **М. І. ГРЫБ.**

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь** — **М. М. ЧЫГІР.**

*29 снежня 1994 г.* *г. Мінск*

# ХРОНІКА ПІКІРУЮЧАЙ ЭКАНОМІКІ

## ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Спад у эканоміцы Беларусі, які пачаўся ў 1990 годзе, захоўвае свой крызісны характар. Якія б сур'ёзныя меры ні прымаў урад на мяжы 1994—1995 гг., прамысловасць у першым квартале 1995 г. будзе "развівацца" па зыходзячай уніз лініі.

Адным з галоўных фактараў, што ўплываюць на паглыбленне крызісу, застаецца тэхнічная адсталасць практычна ўсіх галін прамысловасці, прагрэсіруючая зношанасць вытворчага патэнцыялу (у асобных галінах да 60%). Тэхналагічная адсталасць прамысловай вытворчасці, гаротны стан тэхнічнай базы, рост энергаёмістасці і матэрыялаёмістасці прадукцыі, нізкая якасць зрабілі яе неканкурэнтназдольнай не толькі на знешнім рынку, а і ў многіх выпадках нават на ўнутраным.

Наступным істотным фактарам, які абумоўлівае крызіс у развіцці прамысловасці, з'яўляецца глыбокі манапалізм, які ахоплівае ўсе сферы вытворчасці і выключае з'яўленне канкурэнтназдольнага асяроддзя. Сур'ёзных зрухаў у гэтай галіне не прадбачыцца, таму што буйныя прадпрыемствы практычна ва ўсіх галінах прамысловасці прыватызавацца не будуць, а іх акцыянаванне наўрад ці прывядзе да разбурэння магутнай манапалізаванай сістэмы.

Тым самым у большасці прамысловых прадпрыемстваў па-ранейшаму будуць адсутнічаць стымулы да нарошчвання выпуску прадукцыі, бо ва ўмовах росту цэн на энерганосьбіты толькі сістэматычнае павышэнне цэн на прадукцыю пры зніжэнні аб'ёмаў вытворчасці дазволіць ім дасягнуць фінансавага дабрабыту.

У той жа час некіруемы рост аптовых цэн у прамысловасці не дае падстаў спадзявацца на тое, што іх прадукцыя сёлета пачне знаходзіць збыт.

Тым не менш, у час свайго чарговага з'яўлення народу прэзідэнт адзначыў два, на ягоны погляд, станоўчыя моманты. Па-першае, пачала выраўнівацца сітуацыя ў прамысловасці. Па-другое, прэзідэнт адзначыў, што ніводнага разу не ўключаў друкарскі станок.

Абодва тэзісы аспрэчыць цяжка. Трэба толькі адзначыць, што сітуацыя ў прамысловасці выраўнялася ў тым сэнсе, што ўсе галіны дасягнулі аднолькава нізкага пункту спаду.

Што да друкарскага станка, то прэзідэнт і не мог яго ўключыць — па Канстытуцыі Нацбанк падсправаздачны Вярхоўнаму Савету. Гэта, праўда, не перашкодзіла долару з моманту інаўгурацыі сп. Лукашэнкі вырасці на 300%.

Хто, скажам, адкажа за тое, што за 12 месяцаў інфляцыя перасягнула за 1400%? І ці трэба тлумачыць, што са зніжэннем пакупной здольнасці беларускіх грошай абясцэніліся амаль усе падаткавыя зборы?

Фактычна цалкам захаваная цэнтралізацыя суправаджалася распадам усёй бюджэтнай сістэмы. Абыякавае стаўленне да прыняцця новага Закона аб бюджэце — толькі вынік існуючай сітуацыі. Мяркую, будзе да месца адна гістарычная аналогія. У савецкім фальклоры яна зафіксавана ў радках: "Гром прогремел, реляция идет. Губернский розыск рассылает телеграммы..." Дарэчы, тады нават абыходзіліся без бюджэту, які ў эпоху ваеннага камунізму стаў пустой фармальнасцю.

Напрыклад, на другую палову 1918 года распрацоўваўся такі ж бюджэт, як і на першую, і зацвярджаўся да канца перыяду. Бюджэт на першую палову 1919 года быў зацверджаны Саўнаркомам толькі 30 красавіка 1919 года.

Пасля гэтага ніякія накіды бюджэту не прадстаўляліся Наркамфінам аж да ўвядзення нэпа. Потым іх зацвердзілі заднім чыслом.

Імклівая дэвальвацыя папяровых грошай і адмаўленне ад іх на працягу 1919—1920 гадоў рабілі бессэнсоўным любы бюджэт. Да гэтай сітуацыі ўшчыльную набліжаецца наша эканоміка. Але ёсць і асаблівасці. Мы на Беларусі пайшлі яшчэ далей — у нас як быццам нэп ёсць, а бюджэт ці то ёсць, ці то няма. Кабінет Міністраў і асабіста прэзідэнт павінны былі б разумець, што новы год — апошні, калі Беларусь можа атрымаць крэдыт МВФ.

Строга кажучы, тое, што напярэдадні Новага года разглядаў парламент, — гэта не зусім быў бюджэт, як закон эканамічнага жыцця дзяржавы. Проста абавязкова трэба было ва ўсіх афіцыйных дакументах сканструяваць вельмі ўпадабаны МВФ нізкадэфіцытны бюджэт, які выключае крэдыты Нацбанка на папаўненне дэфіцыту, і прагноз са смехатворнай — пяціпрацэнтнай — месячнай інфляцыяй.

Чаму ж дэпутаты, многія з якіх па сумяшчальніцтве служаць дырэктарамі і старшынямі розных фірм, фондаў, АА і СП і з'яўляюцца лабістамі, раптам забылі пра свае патрэбы? Проста ў гэтым мар'яжы іх бубновы інтарэс залежыць ад другога. Сітуацыя развалу, сумятні, анархіі выгадна, без сумнення, мафіёзным і паўмафіёзным групам і палітычным авантурыстам самага рознага роду ў сталіцы і ў рэгіёнах. Такая сітуацыя стварае спрыяльныя ўмовы для нечуванага па маштабах узбагачэння, маланкавых кар'ер і г. д.; выкарыстанне ў абароце грашовых сурагатаў у выглядзе "зайчыкаў" дае магчымасць весці абменныя гульні з выгадай для людзей, якія займаюць ключавыя пасады ў фінансава-банкаўскай сферы дзяржавы; вывад расійскіх войск з Беларусі і разбурэнне некалі адзінага армейскага арганізма спрыяе спекуляцыі зброяй, ваеннай тэхнікай, армейскай нерухомасцю і г. д.; правакаванне міжнацыянальных канфліктаў у Расіі і іншых краінах стварае магчымасць экспарту/імпарту зброі ў адпаведны рэгіён з атрыманнем звышпрыбыткаў; атрыманне мэтавых крэдытаў з-за мяжы ("для падтрымкі маладой дэмакратыі") — магчымасць разрабавання свабодна канвертуемай валюты; устанаўленне і наладжванне новых межаў — магчымасць кантраляваць праходжанне кантрабанды (асабліва наркотыкаў і каштоўных сыравінных рэсурсаў) праз сваю тэрыторыю; змена суб'екта ўласнасці — магчымасць не столькі нават яе прыватызацыі, колькі індывідуалізацыі, г. зн. уласнага прысваення.

Магчымасцей, як бачым, шмат. Усе яны абумоўлены ходам цяперашняй эканамічнай рэформы, калі на першае месца ставіцца пытанне аб пераразмеркаванні ўласнасці, а, значыць, і пытанне аб уладзе. А палітычныя калізіі — гульні з бюджэтам і падаткамі, так званая барацьба з карупцыяй — толькі вынік імкнення пэўнай часткі кіруючай эліты "продлить удовольствие".

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**




# ТЫ ТОЛЬКІ БУДЗЬ!

***Так сталася ў гісторыі: улада беларусу заўсёды была не свая. Калі не польская, дык расейская або нямецкая... У яе выконванні прымалі ўдзел не адны чужакі, нярэдка зусім іх не было, у горшым выпадку карпеў у мястэчку якісьці ўпаўнаважаны з рэвальверам у кабуры, тубыльцы падлойвалі яго, чым хата багата, часам абдурвалі. От, хітрасць паўднёваафрыканскага зулу перад прадстаўніком брытанскай кароны. Спрыт слабога ўсюды аднолькавы: абы адхапіць сабе.***

Так з пакалення ў пакаленне фармаваўся тып службовага беларусападабенца, якога, без рызыкі перабольшання, можна назваць асвечаным парабкам. Ён сам падстаўляўся апораю прышлым сюды рэжымам. Ён — як знаёмы мне "стукач", які здзіўляў сваёй недатыкальнасцю, неарыштавальнасцю. Даносіў пілсудчыкам, потым пасябраваў з энкавэдзістамі, затым брудэршафціў з нямецкай хільфпаліцай, а пасля сорак чацвёртага — наш прафесіянал ужо — фундаваў самагон цывільным у скураных плашчах з навапольскай тайнай паліцыі. Дажыў да васьмідзесяці, пакінуўшы гэты свет спакойна і без эгрызотаў.

Дэмаралізуючая карусель — што ні вайна, іншы начальнік, ягоная мова і нормы — абалваніла пасаджаную на яе нацыю, не дапускаючы ўзнікнення ў ёй інстынкту дзяржаўнасці. Вымываўся і нацыянальны этнас, што сёння дае камічны эфект нацыянальнай (фармальна) дзяржавы на дэнацыяналізаванай тэрыторыі. Зноў акупацыя?

Нам гэта не першыня. Толькі, можа, тае розніцы, што яны ў гэты раз свае — бел-чырвона-белыя акупанты, родныя. І настойваюць на тым, каб беларусамі быць. Дзіва!

У мяне, аднак, аптымізм. Насельніцтва, прызвычаенае да падлегласці камусьці і адкульсьці, цярпліва ўспрымае і Рэспубліку Беларусь. Сказаў рабацяга з менскае Серабранкі: "Столькі ўсяго перажыўшы — перажывем і незалежнасць!" Зрэшты, нікуды яна не падзенецца — дагавару за яго, бо настаў незразумелы ў палітычнай гісторыі час, калі ўчарашнія анексіяністы проста гоняць сваіх падлыжнікаў у тую ж незалежнасць.

Заваліліся імперыя за імперыяй, спачатку ў Еўропе чатырнаццатага года, а неўзабаве грукат ад іхніх руінаў запыліў Афрыку, дзе па-першабытнаму даверлівым неграм паназазалі штучныя дзяржаўныя межы, вывешваючы ў іх сталічных вёсках дзівосныя сцягі і гербы, спрабуючы адначасна дзе-нідзе ўзвысіць да рангу афіцыйных племянныя дыялекты на месца каланіяльных моў. Знайшліся, ясна справа, рэгіёны, у якіх крыху пастрэльвалі ў бушы, галоўным чынам са знакамітых аўтаматаў Калашнікава і пад камандаю школеных Крамлём інструктараў. Пісаліся ідэйныя байкі для экзатычнай галоты, а ў інтэлігентнейшых варыянтах — для ўласнае тратуарнай чэрні. У сапраўднасці працэс дэкаланізацыі праходзіў нерамантычна, не паводле камуністычнай алхіміі, а ў эпічнай тапальнасці эканамічнага рахунку: традыцыйныя калоніі пераставалі звычайна аплачвацца паўночна-атлантычнымі метраполіямі. Тэхналагічная рэвалюцыя шасцідзесятых гадоў мінімалізавала патрэбу ў сыравінах, мадыфікавала старасвецкую індустрыю, што глынала неверагодную колькасці натуральных выкапняў, энерганосьбітаў. Эксплуатацыя заморскіх шахтаў, плантацый каўчуку, прыкладам кажучы, страчвала фінансавы сэнс, робячыся цяжарам, як плойма галадранскіх сваякоў багатага дзядзькі. Карміць кагосьці хлебам таму, што ён табе "младший брат", не хоча нават Расія малаэканомная, дадумаўшыся заднім розумам, што слабы будзе толк у такой радзіне (Савецкі Саюз правучыў, ой правучыў!).

Ну, чым не аналогія для каланізавана-асіміляванай Беларусі?!

На хвілю запынюся яшчэ на тэме Расіі. Асаблівасць развіцця гэтай супердзяржавы ў тым, што гняце яе і не дазваляе дыхнуць на ўсе грудзі чынгіс-ханаўская мадэль тэрытарыяльнай экспансіі замест нарошчваныя ўнутранага патэнцыялу. Яна не багацела — яна пашыралася. Бедная і вялізная, салдафонская, нікога са сваім розумам не прыцягвала, ад яе адбіваліся рукамі і нагамі. Імперыю ўяўляла сабою і, скажам, Англія, пасля якое яе былыя калоніі ў функцыі Сібіры — Паўночная Амерыка, Паўднёвая Афрыка, Аўстралія — выраслі ў глабальна значныя, узначаліўшы ў нашы дні краіны дабрабыту. Для кантрасту: нічым добрым, аднак, не закончыўся ўпадак іспанскага ўладарніцтва ў свеце.

Элементы афрыканскай сітуацыі надта ж відавочныя ў сучаснай Беларусі. Перш за ўсё ў выглядзе задарма падоранага ёй адметнага колеру на палітычнай карце Еўропы. Ніхто не наклаў за гэта галавою, як, напрыклад, у Вільні. А тыя, каго налупілі паліцэйскімі кіямі на менскіх Дзядах, не кваліфікуюцца на п'едэстал, жывуць жа. Я маю на ўвазе непасрэдную акцыю, а не паўвекавой даўніны падзеі, ушчэнт сатлеўшыя ва ўсебеларускай непапяровай памяці. Калі тое было?!

Не пераношу прычытаў пад іконаю нелітасцівай Спадарыні Гісторыі! Чаму выманула ад нас арыстакратаў?, падкупіла мяшчанства?, эксперыментавала на целе нашым, бы асветніцкі медык на экземпляры дэбіла? Молімся: выратуй нас, Божа! А мяне бярэ злосць: не выручайся Госпадам, сам падымайся з каленяў і ў дадатак ўспамажы Богу, калі ты хрысціянін!

Навуковая класіфікацыя нацый паводле менталітэту іх культуры — наступная: арыстакратычныя (напрыклад, французы, ангельцы, палякі), плебейскія (чэхі, швейцарцы, нідэрландцы) і сялянскія (уся Балтыя, Скандынавія, славакі, балгары і інш.). Не адным беларусам ампутавалі некалі галаву, пакідаючы рукі, каб мазольна рабілі на кагосьці, і жывот з геніталіямі, каб весціся ды пладзіцца. Давайце раўняцца да роўных сабе, таксама і па ліку мільёнаў душ, хаця б да тых шведаў, якіх на ўзыходзе дваццатага стагоддзя малавеле не выкаціла ад голаду, а напрыканцы — ад'еліся і заблішчэлі дабрабытам зіхацісцей саміх Злучаных Штатаў. Возьмем ісландцаў, якіх менш ад усяго жыхарства Гародні. У той шведскі паморак елі яны мох ды запівалі ручайнай вадою, вось да чаго давялі іх дацкія "цывілізатары" з Капенгагена. Стагоддзем пазней праўнукі тых заморкаў выдаюць паўтары сотні (не памылка!) газетаў і часопісаў і пераклалі на сваю пастварагскую мову ўсянютка вартае прачытання з пяці кантынентаў; няма ў іх дома без прыватнай бібліятэкі ад столі да падлогі. Во табе нацыя, нават не сялянская, а нейкая жабрацкая папярэдне!

У чым жа загадка адраджэння? Дантон, ідэолаг Французскай рэвалюцыі, выказаўся быў афарыстычна: "Першая справа пасля хлеба, пра якую павінен падумаць кожны народ, гэта школа". Хлеб і школа, ніколі наадварот. Я за Беларускі народны фронт, але як пазбыцца таго ўражання, што плаксівасць ягоных нізавых дзеячаў і актывістаў надта ж на руку наменклатуры, бо — і прывід дэмакратычнасці захаваны, і свабода патрыятызму (платанічнаму), і беларусізуйся сабе да бяспамяці, а мы ціха сваё ведаем і чынім. Беларускі патрыятызм — хворы, занадта лірычны, часта па-бабску гаварлівы, маластваральны ў сэнсе фактаў. Гэта не папрок, а канстатацыя яго маладосці, лёгкасці нарачонага на абяцанкі. Народ жа ў пераважнай большасці — людзі сталыя, скураю адчуваюць лухту, няхай сабе і незнарочыстую ў высакародных лапатуноў. Настала такая пара, што год раўнаварты дэкадзе, усё роўна што на фронце салдату. Я чакаў куды мацнейшага супраціўлення "беларускім акупантам", іх ужо варта пісаць у двукоссі, мяркуючы па тэмпах дэзінфантылізацыі працоўных, ад якіх патрабавалася раньш адно — шчаслівасці ад "бацькоўскага клопату партыі".

Драма палітыкаў Беларусі не ў іх ілюзіях. Гэтыя беларусы з рускай душою не здольны прыняць да ведама, што напаткаў іх лёс — назавём так — асобнай "рускай" дзяржавы побач з Расіяй. І што асабліва драматычна, дык гэта тое, што няма і не знойдзецца спосабу ліквідаваць гэту асобнасць. Зусім не прэцэдэнт у маштабах зямное кулі; аднамоўных процьма! Не трэба быць акадэмікам, каб не заўважыць, што і ўлады, і падлеглы ім люд беларусізацыю прынялі абыякава, як нешта прадыктаванае бягучым момантам, не болей, як тактыку пры нязменнай стратэгіі. Свайго роду жарт, правізорнае вырашэнне, уступка, каб вярнуць былое... І вось табе на: часовае пераўтвараецца ў трывалае, бы неасцярожны раман, закончаны мацярынствам ды бацькоўствам. У тым менавіта псіхалагічны сакрэт паказной беларускасці, якая "к тихому ужасу" з кожным новым навучальным годам робіцца безальтэрнатыўнай, а праз пакаленне — беззваротнай (уваскрашэнне з магілы, як вядома, мела месца ў гісторыі чалавецтва адзін раз, і Язэпа Вісарыёнавіча яно не датычыць).

Будзь ты, Рэспубліка Беларусь, сякая-такая, будзь гэткая-разгэткая, але ты, напрамілы Бог, будзь! Будзеш — усё будзе. Рэспубліка Беларусь — гэта запачаткаванне ўласнага лёсу. Былі розныя — савецкі, расейскі, польскі — а свой толькі мае быць. Усякі пачатак цяжкі. "Акупанты" нашы несур'ёзныя, ні трохі не жадаюць імі быць, але — вось жа іронія гісторыі — мусяць! Па волі Расіі, у рэшце рэшт. Як жа інакш, калі некаторыя лезуць-просяцца да яе, каб забрала лішні ім суверэнітэт, а яна не бярэ, хоць дагэтуль брала, нават не пытаючы. Ашалець! Раз так, то за беларускую незалежнасць можна не баяцца, а жалі варожага ёй народу смела і бяспечна накіроўваць у родную яму Маскву. "Ходоков надо!" Але каму цяпер ахвота бясплатна швэндацца ў блізкі свет...

Беларуская нацыянальная меншасць у Беларускай дзяржаве, як і ўсякая меншасць, схільная шукаць інтрыгу супраць яе. Няма тым часам аніякай дзікай інтрыгі, справы маюцца проста. Беларусь з прышчэпленай ёй рускай душою не верыць, што Рэспубліка — гэта не часовая імпрэза. І яе кіраўнікі гэтак жа не пераканаваны, што вельмі дрэнна сведчыць пра іх адукаванасць. Калі б праслухалі грунтоўны курс гісторыі, то ведалі б, што ідэю Беларускага Народа немагчыма ператварыць у анекдот, і адзінае, у чым можна ёй зашкодзіць, дык гэта ў тым толькі, каб запаволіць яе самарэалізацыю.

**Сакрат ЯНОВІЧ**

*Беласток, Крынкі*

# АДЗІНСТВА І ЯДНАННЕ

***15 снежня адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па культуры БНФ "Адраджэнне", на якім разглядалася адзінае пытанне "Аб стане беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь".***

У выступленнях сяброў камісіі прагучала трывога аб тым, што адраджэнне нашай культуры запавольваецца, спыняецца тая работа па выкананні Закона аб мовах, якая набыла шырокі размах, гуртуюцца сілы супраць дзяржаўнасці беларускай мовы, патрабуюць адкрыцця рускамоўных класаў, нягледзячы на тое, што ў Мінску з 216 школ набор у беларускамоўныя класы вядуць толькі 145 школ, што ў сталіцы Рэспублікі Беларусь няма ніводнай поўнасцю беларускай школы, ніводнай беларускай ВНУ.

Прысутныя пагадзіліся з тым, што асновай беларусізацыі школ з'яўляецца нацыянальная кадравая палітыка, перавод ВНУ на беларускую мову навучання, выданне ўласных высакаякасных падручнікаў на беларускай мове па ўсіх прадметах.

З мэтай карэннага павароту грамадства да нацыянальных каштоўнасцей, сапраўднага адраджэння беларускай мовы, культуры, школы сябры камісіі па культуры, што з'яўляюцца прадстаўнікамі БНФ (Беларускага народнага фронту), ТБМ (Таварыства беларускай мовы), НДПБ (Нацыянал-дэмакратычнай партыі Беларусі), ГБК (Гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў), ЗБШ (Згуртаванне беларускай шляхты), Краязнаўчага таварыства, БДАВ (Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў), клуба "Спадчына", Мартыралога Беларусі, творчай суполкі мастакоў "Пагоня", стварылі Каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы.

Сябры Каардынацыйнага камітэта лічаць, што новаму ўтварэнню хопіць моцы, каб супрацьстаяць чарговай плыні русіфікацыі, што беларусы, як калісьці і чэхі, змогуць выратаваць і сцвердзіць на сваёй зямлі багатую старажытнейшую родную мову.

**Каардынацыйны камітэт адкрыты і запрашае да супольнай працы ўсе грамадскія, патрыятычныя арганізацыі краіны. Наш кантактны тэлефон: 33-50-12.**

## МУЗЕЙ ПАЧАЎ ЖЫЦЬ...

**"Музей прыняў першых наведвальнікаў, музей пачаў жыць... Не сумняваюся, што ў яго вялікая будучыня, што сюды, у гэтую хаціну, *будуць заходзіць людзі з усяго свету,* каб адкрыць для сябе і пазнаваць нашу Беларусь — нашу любую Бацькаўшчыну. Паздароў, Божа, тых добрых людзей, чыімі клопатамі ўзнік музей і будзе служыць роднай культуры — і сёння, і заўтра, і заўсёды", — так напісаў у кнізе водгукаў філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна старшыня парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч.**

**Не чулі пра такі музей? Не чулі, таму што раней яго не было, упершыню ён гасцінна расчыніў свае дзверы толькі нядаўна, калі ў Гарадок прыехалі прадстаўнікі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, музейныя работнікі, народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль і ўжо згаданы Ніл Сымонавіч.**

**Месца філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры выбрана невыпадкова. Вёска Гарадок — багатая гістарычнымі помнікамі. Гэта і мясцовая царква, і млын, што нямала пабачыў на сваім вяку, і мясцовае гарадзішча. А да ўсяго тамашняя зямля і яе ваколіцы звязаны з імёнамі народнага песняра беларускага народа Я. Купалы, пісьменнікаў З. Аксельрода, І. Козела, Р. Семашкевіча.**

**У музеі — тры залы. Першая расказвае пра тых, хто ў розны час даследаваў жыццё і побыт гэтага кутка Бацькаўшчыны. А гэта былі П. Шпілеўскі, М. Федароўскі, П. Штэйн, У. Нікіфароўскі і іншыя. У другой знайшлося месца этнаграфічным матэрыялам. Унікальныя экспанаты перадалі жыхары Гарадка і навакольных вёсак — вырабы з дрэва, саломкі, керамічныя. І, нарэшце, трэцяя зала — уваходзіны ў жыццёвы і творчы шлях *пісьменнікаў-землякоў.***

## СЛУХАЙЦЕ

**ПЕРАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ**

**Яны выходзяць у эфір тры разы на дзень:**

**а 8.00 на кароткіх хвалях 49,71 м (адпаведная частата 6035 кГц) а 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 50,04 м (а. ч. 7285, 5995 кГц)**

**а 16.30 на кароткіх хвалях 41,99 м і 49,22 м (а. ч. 7145, 6095 кГц)**

**НАШЫ ПАСТАЯННЫЯ ПЕРАДАЧЫ:**

**агляд тыднёвіка беларусаў у Польшчы "НІВА":**

**панядзелкі — 8.00 і 14.30.**

**Эканамічны блок — бізнес, банкі, Варшаўская акцыянерная біржа, курсы валют, эканамічнае супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі:**

**серады — 8.00 і 14.30**

**Культурныя актуальнасці — тэатральныя прэм'еры, выставы, сустрэчы з польскімі і беларускімі мастакамі, кіно, кніжкі:**

**чацвяргі — 8.00 і 14.30**

**Навукова-тэхнічная *перадача — доследы* знакамітых навукоўцаў, тэхнічныя ізюмінкі, недаступнае:**

**пятніцы — 8.00 і 14.30**

**Гутаркі Сакрата Яновіча "Ад Бібліі да беларускае літаратуры":**

**суботы — 8.00 і 14.30**

**Рэлігійныя гутаркі айца Уладзіміра Місяюка:**

**нядзелі — 8.00**

**Беларускі літаратурны рух у Польшчы — гутаркі Алеся Барскага:**

**нядзелі — 8.00 і 14.30**

**Усё гэта пераплецена цікавай музыкай — як класічнай, так і лёгкай.**

Наш адрас: Беларуская рэдакцыя польскага радыё, 00-977 Варшава, паштовая скрынка 46, Польшча

## КАСТРЫЧНІЦКІ НУМАР "БЕЛАРУСА"...

**Як і папярэднія, ён багаты на разнастайную інфармацыю палітычнага і культурнага зместу. Б. Рагуля выступае з артыкулам "Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку пад развагу". К. Мярляк ("Тры дні ў Беларусі") дзеліцца ўражаннямі ад наведвання Бацькаўшчыны. М. Швэдзюк ("Паўла Пракапеня") расказвае яшчэ пра аднаго беларускага спевака ў эміграцыі. "Пётра Крэчэўскі як публіцыст і паэт" — яшчэ адна старонка з біяграфіі за свабодную Беларусь. "У пошуках эміграцкай літаратуры" — працяг падарожных нататак З. Кіпель. "Госці з Менска" — расказ пра наведванне Р. Гарэцкім і Г. Сурмач ЗША.**

# МАСТАЦТВА ЧАЛАВЕЧАЙ ГОДНАСЦІ

## Віктару ТАРАСАВУ — 60

Лета — 1978 года.

Пасля вучобы ў Маскве на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах я вярнуўся ў родны Мінск, дзе мяне ніхто, апроч дачкі, не чакаў. Планы я меў напалеонаўскія: ні больш, ні менш — стварыць свой тэатр.

Апускаю доўгія папярэднія перамовы ў Дзяржкіно і ў ЦК. Тым, хто помніць той час і тыя ўстановы, не трэба тлумачыць, праз што давялося прайсці. Нарэшце першы крок зроблены: дазвол на пастаноўку атрыманы. Больш за тое, "прабіта" "Паляванне на качак" А. Вампілава. Лепшая на той час савецкая п'еса, якая была пад глухой забаронай для пастаноўкі!

Дазвол ёсць, п'еса ёсць. Неабходна сабраць каманду. Лёгка сказаць!.. Хто да мяне пойдзе? Каму я патрэбен з дзіўнай ідэяй новага тэатра?

Нягледзячы на неаднаразовыя спробы, пасля вайны аж да пачатку васьмідзесятых у Мінску так і не быў адкрыты ніводзін новы драматычны тэатр...

Ліпеньскім спякотным днём мы сустрэліся з Віктарам Паўлавічам Тарасавым у скверы ля тэатра Янкі Купалы. Да той сустрэчы мы былі знаёмы даўно. Каля васьмі гадоў я працаваў акцёрам Купалаўскага тэатра, неаднойчы бываў партнёрам Тарасава ў спектаклях, бачыў яго працу з рознымі рэжысёрамі, памятаў выдатныя ролі акцёра ў пастаноўках Барыса Эрына (адзін "Дзівак" Назыма Хікмета чаго варты!). І тут такая нагода...

Хвалюючыся, блытана я распавёў яму сваю ідэю і амаль нечакана, — гаворка была зусім кароткай, — пачуў у адказ: вось табе мая рука!

Гэта быў найшчаслівейшы момант у маім жыцці: са мной — Тарасаў...

Пажыццёва буду ўдзячны маім сябрам па Купалаўскім тэатры П. Кармуніну, А. Памазану, Ф. Варанецкаму, артысту ТЮГа на той час В. Філатаву, нябожчыку Лёню Круку — за падтрымку і ўдзел у спектаклі, але найперш схіляю галаву перад Віктарам Тарасавым.

Без яго не было б тэатра!

І пачаліся тры месяцы шчасця.

Хапала, вядома, штодзённай мітусні, непатрэбных перашкод, але над усёй гэтай дробяззю *лунала ідэя!*

Скажу вам, гэта рэдкая ўдача для творцы — напаткаць сваю ідэю і ажыццявіць яе.

Гэта была мая першая буйная пастаноўка, не лічачы некаторых спроб. Тэарэтычна я ведаў усё пра спектакль і яго герояў. Але ж сказаў паэт, што тэорыя без практыкі мярцвее. І гэтую практыку мне прыйшлося спасцігаць. А Тарасаў зрабіўся маім універсітэтам!

Трэба было мець ягоны талент — прафесійны і чалавечы, — каб без гучных слоў, сваёй працай, стаўленнем да ідэі, самой істотай сваёй зрабіцца ўзорам, прыкладам для калег і давесці задумку да шчаслівага канца!



Вось адзін з яго ўрокаў.

Сцэна Ірыны і Зілава ў кавярні. Зроблены першапачатковы аналіз, вызначаны ўсе сувязі нашых герояў, але падчас рэпетыцый гэтай сцэны Тарасаў прапанаваў другі ход і... заблудзіўся. Такое бывае. Я паспрабаваў вярнуць яго да першапачатковага вырашэння сцэны, зрабіў гэта, мусіць, не зусім пераканаўча. Віктар Паўлавіч нервова адрэагаваў, я сумеўся, пераканаць яго не змог.

Час ішоў, спектакль пачынаў акрэслівацца, набіраць ходу, але сцэна з Ірынай не атрымлівалася, выпадала з агульнага вырашэння. Тарасаў нерваваўся. Я бачыў памылку, упэўніваўся ў слушнасці свайго разумення сцэны, але... маўчаў.

Аднойчы Віктар Паўлавіч патрабавальна запытаў — загадаў:

— Валера, што ты там гаварыў пра сцэну?

Я пачаў тлумачыць.

Слухаў мяне ён неяк дзіўна: не гледзячы ў твар, набычыўшыся, нібы выцягваў з мяне тое галоўнае, што яму трэба было ўведаць. Між тым я зноў закамплексаваў, збіўся і... змоўк. І тады, пачулася патрабавальнае, амаль жорсткае:

— Гавары! гавары!... Хоць мычы, але гавары!

Хоць мычы!

Ну й адкрыццё, усміхняцеся вы... Усміхнуся і я: рэжысёра, якога акцёр не разумее, апраўдае хіба... мычанне? Ці не праз тое так сумна й нудна амаль на кожным спектаклі ды й на кожнай сцэне сёння — таму, што згублена вялікая школа псіхалагічнага аналізу, ускрыцця падтэксту, другога плана, узаемасувязь характараў, повязь прычын і наступстваў, а ў канчатковым выніку — *філасофіі ролі? Усяго таго,* чым вылучаўся тэатр?

Сутыкнуўшыся блізка з працай вялікага майстра, я ўвачавідкі стаў сведкам карпатлівага, штодзённага творчага працэсу, пошуку, спасціжэння аўтара, характару героя.

Далейшы лёс звёў нас у радыётэатры. Бальшыню галоўных роляў у маіх радыёспектаклях, а іх набралася за семдзесят, выканаў Віктар Паўлавіч! Тарасаў на радыё — асобная старонка ў творчай біяграфіі майстра і ў гісторыі Беларускага радыёвяшчання. На радыё ён можа ўсё! Можа не толькі голасам, не толькі адметнай, віртуознай акцёрскай тэхнікай. Яго трапяткое, шчырае, пяшчотнае сэрца — узор высокага мастацтва чалавечай годнасці. Яго далікатная, адзінокая душа так умее любіць! Як б'ецца, як пакутуе яго непаўторны голас, каб адгукнуцца ў нашых сэрцах паўзай, шчымлівым роздумам, жаданнем, надзеяй...

**Валерый АНІСЕНКА,**
**мастацкі кіраўнік Беларускага радыё, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі**

*На здымку: падчас падрыхтоўкі "Паляванне на качак" А. Вампілава. Любоў Румянцава, Віктар Тарасаў, Валерый Анісенка, Валерый Філатаў. Чэрвень 1978 года.*

# ВЕРНАСЦЬ БАЦЬКУ

Не так даўно ў сталічным Доме літаратара святкаваліся 35-гадовы юбілей Літаратурнага музея Якуба Коласа і 80-гадовы — яго першага дырэктара, старэйшага сына паэта Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча. Вечарына мела назву "Сыноўняя вернасць".

Мерапрыемства праходзіла надзвычай урачыста. Зала ледзь змясціла ўсіх тых, хто прыйшоў аддаць даніну павагі памяці перш за ўсё самога Якуба Коласа, а таксама павіншаваць Д. Міцкевіча, заслужанага дзеяча культуры нашай рэспублікі, вернага захавальніка песняровай спадчыны.

Пачалася ўрачыстасць выступленнем маленькіх выхаванцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская расказала аб гісторыі стварэння музея, успомніла добрым словам тых супрацоўнікаў, якія аддалі Дому Коласа свой талент, свае веды і, канечне ж, павіншавала Данілу Канстанцінавіча — свайго папярэдніка і настаўніка.

Да віншаванняў дырэктара музея далучыліся знакамітыя госці і ўдзельнікі вечарыны — народны паэт і народны дэпутат Беларусі Ніл Гілевіч, народны пісьменнік Янка Брыль, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Сяргей Грахоўскі, народны пісьменнік, старшыня Рэспубліканскага фонду культуры Іван Чыгрынаў, народны паэт Рыгор Барадулін, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Пятро Прыходзька, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Мікола Аўрамчык, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак. Павіншавалі юбіляра міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч і міністр замежных спраў Уладзімір Сянько. Ад імя мастакоў, што прысутнічалі на вечарыне, выступіў Уладзімір Сулкоўскі.

Прыйшлі павіншаваць юбіляра і выказаць словы падзякі музейцам-коласаўцам сваякі Д. К. Міцкевіча, супрацоўнікі Аб'яднання дзяржаўных Літаратурных музеяў, навукоўцы з літаратурных музеяў Янкі Купалы і Петруся Броўкі, прадстаўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Віталі Данілу Канстанцінавіча і музейцаў-коласаўцаў Коласавы землякі — народны хор Навасвержанскага лесазавода Стаўбцоўскага раёна, а таксама квартэт "Святлана" і ансамбль "Светач", фальклорны калектыў "Мінскі гармонік".

**Ганна ЗАЙЦАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Я. Коласа**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## БАЦЬКОЎСКІ ПОСАХ

*Данілу Канстанцінавічу МІЦКЕВІЧУ*

**Табе дарыў кастрычнік месяц
Букет з даспелых верасоў,
Паклікаў зноў ад родных весніц
Ісці ў прастор палёў, лясоў.**

**Твой ранак над тваім парогам
Не стаў віхураю ліхой,
А над бясконцаю дарогай
Узняўся новаю вяхой.**

**Бяры ж той посах, што калісьці
З ядлоўцу бацька твой рабіў.
Ён дапаможа з пушчы выйсці,
Дзе лось заранку пратрубіў.**

**Самой прыродай шліфаваны,
Той посах у руках гудзе.
Ён да людзей у час жаданы
Цябе заўсёды прывядзе.**

**Табе пакажуць зоркі з неба,
Дзе продкі сцяг наш узнялі,
Як надалей трымацца трэба
Прастораў "Новае зямлі".**

**З тым посахам ні днём, ні ў ночы
Ты не саб'ешся з шляху ўбок.
Ты нас вадзіў не раз, не двойчы
Ў Альбуць, Акінчыцы, Ласток.**

**Паказваў блізкія сцяжыны
Ў бацькоўскі родны, мілы кут,
Дзе нараджаліся быліны,
На волю вырваўшыся з пут.**

**Там ветрам вехі ў полі
Час расстаўляў пры бальшаках, —
Нам не разлучвацца ніколі
Са словам Коласа ў вяках.**

*Найбольш важныя праблемы, якія сёння хвалююць грамадства, — абвальны заняпад эканомікі і несупынны рост злачыннасці. Як павялося ў нас здаўна, калі не ладзіцца жыццё, не ладзяцца справы, пачынаецца пошук вінаватых. Адшуканы вінаватыя і таго, што крымінагенная абстаноўка ў краіне застаецца надзвычай вострай і складанай. Хто яны, гэтыя вінаватыя? Ну, вядома ж, міліцыя, якая перастала адпавядаць вызначэнню, дадзенаму ёй савецкім класікам: "Мая міліцыя мяне беражэ". Аказваецца, не беражэ, або беражэ слаба. Скажам адразу, крытыка, якая гучыць па адрасе нашых праваахоўных органаў, у многіх выпадках абсалютна слушная. Карыстаючыся старым газетным штампам, скажам, што ім яшчэ трэба шмат зрабіць, каб наша зямля гарэла пад нагамі злачынцаў. І, разам з тым, нельга не разумець, што барацьба са злачыннасцю — складанейшая задача, дзе спляліся ў тугі клубок самыя розныя праблемы, і разблытаць гэты клубок адным праваахоўным органам без дапамогі ўсіх нас, законапаслухмяных грамадзян, немагчыма.*

*Кожнае дакрананне да "крымінальнай" тэмы вымагае гранічна сур'ёзнага, прынцыповага, прадметнага, а галоўнае, кампетэнтнага падыходу. На нашу думку, гэтым крытэрыям адпавядае сённяшні госць "ЛіМа" — галоўны "сышчык" г. Мінска, а калі афіцыйна — начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку сталіцы, палкоўнік міліцыі Міхаіл МАКАРАНКА. З ім гутарыць рэдактар аддзела публіцыстыкі газеты Міхась ЗАМСКІ.*

# І ПАД КУЛЮ ЗЛАЧЫНЦЫ...

**М. ЗАМСКІ: — Сярод падраздзяленняў органаў унутраных спраў, мабыць, найбольшую цікавасць і цікаўнасць грамадзян выклікае служба крымінальнага вышуку, з якой атаясамліваецца амаль фальклорная фігура сышчыка, дэтэктыва, дзейнасць якога ахутана туманам таямнічасці. Менавіта ад фігуры дэтэктыва, так бы мовіць, адштурхнуўся цэлы напрамак у мастацкай літаратуры, і як бы мы да яго ні ставіліся, трэба прызнаць, што кніжка-дэтэктыў валодае розумам ужо не аднаго пакалення.**

**Многія дзесяцігоддзі была ахутана славай дзейнасць Маскоўскага крымінальнага вышуку, легендарнага МУРа (Московского уголовного розыска), якому прысвяцілі свае творы многія савецкія пісьменнікі і кінематаграфісты. Дастаткова ўспомніць хоць бы "Запіскі следчага" Л. Шэйніна, якія з цікавасцю чытаюцца і сёння, з поспехам канкурыруючы з сучаснай айчыннай і перакладной дэтэктыўнай літаратурай, якой завалены паліцы кнігарань і кіёскаў.**

**Ну, а чым вядомы наш Мінскі крымінальны вышук, па-руску таксама МУР?**

М. МАКАРАНКА: — Калі яго параўноўваць з маскоўскім, дык, відаць, асноўнае паміж намі адрозненне — гэта тое, што пра яго пішуць, а пра нас — не. Ва ўсякім разе, вельмі рэдка. А ў астатнім, лічу, мы мала ў чым адрозніваемся. Хіба што маштабамі дзейнасці. Масква — ёсць Масква, у ёй жыве людзей амаль столькі, колькі ва ўсёй нашай рэспубліцы, не кажучы ўжо пра іншыя адметнасці — дзесяткі тысяч бежанцаў, якія прыбываюць сюды з усіх канцоў СНД, мільёны людзей едуць праз Маскву транзітам і да т. п. А ў прынцыпе, мы працуем не горш, а па некаторых пазіцыях мо і лепш. Некаторым нашым аператыўным дзеянням і камбінацыям масквічы могуць і пазайздросціць. Мы, напрыклад, лепш працуем па раскрыцці цяжкіх злачынстваў.

**— У нас таксама ёсць свае Шэрлакі Холмсы?**

— Я не аматар падобных гучных параўнанняў, асабліва са славутымі літаратурнымі персанажамі. Думаю, што тыя самыя Холмс ці Пуаро з іх дэдуктыўным метадам, апыніся яны на нашых вуліцах, выглядалі б наіўнымі няўмекамі. Але гэта я жартам, вядома. Пра нашых я магу сказаць, як пра добрых прафесіяналаў. Лічу гэта вышэйшай адзнакай для сышчыка. І, вядома, яшчэ вернасць, адданасць справе.

**— Спадзяюся, іх імёны не засакрэчаны?**

— Не, вядома. Гэта начальнік аддзела па раскрыцці кватэрных крадзяжоў Міхаіл Шчурак, начальнік аддзела, што займаецца выкрыццём разбойных нападаў, Пётр Сеніч, можна было б назваць яшчэ некалькі імёнаў... На іх рахунку нямала злоўленых злачынцаў.

**— Колькі наогул у вас працуе людзей?**

— Непасрэдна ва ўпраўленні — 30 чалавек. Ну, яшчэ па 25—35 дэтэктываў у раённых аддзелах крымінальнага вышуку. Колькасці нам хапае, а вось якасці...

**— Што і казаць, прэтэнзій да вас многа. Вось і зусім нядаўна, у самым канцы мінулага года, група вядомых дзеячаў спорту рэспублікі звярнулася да прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі, кіраўніцтва праваахоўных органаў з патрабаваннем лепш абараняць жыццё і маёмасць спартсменаў ад крымінальных элементаў. Спасылаліся яны пры гэтым на некалькі фактаў абкрадання кватэр і аўтамашын спартсменаў з сусветным імем. Прыводзіўся і выпадак забойства аднаго са спецыялістаў Дзяржкамспорту. Асабліва ўражвала канцоўка нагаданага звароту — калі праваахоўныя органы не ў стане ахоўваць бяспеку спартсменаў, яны мушаны будуць вырашаць гэтую праблему ўласнымі сіламі.**

— Цікава, як яны гэта думаюць зрабіць? Звярнуцца па дапамогу да прыватных ахоўных фірм? Калі ласка. Але тыя могуць забяспечыць кліентаў толькі целаахоўнікамі, вышуковай дзейнасцю яны пакуль што ў нас не займаюцца. Гэта па-першае. Па-другое, ці трэба так ужо падкрэсліваць выключную каштоўнасць жыцця і маёмасці спартсменаў, хай і славутых? Крымінальны вышук павінен з аднолькавай адказнасцю займацца выкрыццём усіх злачынстваў, каго б яны ні закранальі. Што датычыць спартсменаў, дык пэўная частка іх пастаянна выязджае на спаборніцтвы за мяжу, адкуль вяртаецца з вялікімі грашыма, аўтамашынамі, відэатэхнікай і г. д., і адразу трапляе пад "каўпак" зламыснікаў.

**— У алімпійскага чэмпіёна Шчэрбы, помніцца, ці не адразу пасля вяртання яго з Іспаніі, дзе ён на Алімпійскіх гульнях заваяваў 6 залатых медалёў, абрабавалі кватэру, а затым, здаецца, двойчы кралі яго аўтамашыны.**

— Злодзеяў тады выкрылі, і сярод іх, дарэчы, аказаўся сябра чэмпіёна, член зборнай Беларусі, і машыны яму таксама вярнулі. Што датычыць забойства супрацоўніка Дзяржкамспорту, дык рэдкі тыдзень у нас не забіваюць людзей. Асабліва даўся нам у знакі кастрычнік і лістапад мінулага года, калі адбылася цэлая серыя забойстваў, ахвярамі якіх сталі як асобныя грамадзяне, так і цэлыя сем'і.

**— Пазалетась у Пракуратуры рэспублікі мне паказалі зводку аб асабліва цяжкіх злачынствах, у тым ліку забойствах, якія адбыліся на тэрыторыі Беларусі. Не помню ўжо ўсіх лічбаў, але ўразіла, што недзе 80—85 працэнтаў іх адбылося на бытавой глебе — па п'янцы, у выніку сямейных сварак, рэўнасці і да т. п. Цікава, такая "прапорцыя" захоўваецца і цяпер?**

— Не. Вось вам лічбы — з 98 забойстваў, здзейсненых за 11 месяцаў мінулага года, толькі 22 можна назваць бытавымі, астатнія мелі ярка выражаны карыслівы характар. Вось вам паранальна нядаўні выпадак — забойства маладога рабочага аднаго з мінскіх прадпрыемстваў, раскрыццём якога давялося займацца непасрэдна ўпраўленню, бо выпадак быў вельмі цяжкі — труп быў знойдзены абезгалоўленым. Тым не менш, цела ўдалося досыць хутка ідэнтыфікаваць... па татуіроўцы на "марскую тэматыку", што выключала прыналежнасць забітага да крымінальнага асяроддзя. Далей-болей, удалося высветліць, хто ён і адкуль, а затым і рэканструяваць само забойства. Неўзабаве выйшлі і на забойцаў. Імі аказаліся прывакзальныя бомжы, якія, выпадкова пазнаёміўшыся з будучай ахвярай, якая была на добрым падпітку пасля атрыманай палучкі, угаварылі яго ў сваю кампанію, а пасля, калі ўбачылі, што ў хлопца засталіся грошы, забілі яго, а каб труп было цяжка апазнаць, адрэзалі галаву і кінулі яе ў каналізацыйны люк.

**— Жах! Нядаўна ў газетах прамільгнула інфармацыя аб знойдзеным у Барысаве таксама абезгалоўленым трупе мясцовага бізнесмена. Забілі нядаўна камерсантаў у Бабруйску і Баранавічах. Ствараецца ўражанне, што на такіх людзей крымінальныя элементы палююць у першую чаргу.**

— Вы не памыляецеся. Старая ісціна — там, дзе круцяцца вялікія грошы, там льецца кроў. У канцы мінулага года мне і маім таварышам два тыдні давялося займацца раскрыццём двайнога забойства, забойства, якое мы паміж сабой называем "глухім", г. зн. не пакідаючым амаль ніякіх слядоў і ўлік. Забітыя былі знойдзены ў лесе паблізу Мінска мясцовымі жыхарамі, і як яны туды трапілі, хто яны — трэба было высветліць. Як вы разумееце, я не магу расказваць пра ўсе следчыя камбінацыі і дзеянні, якія прыйшлося ўжыць, скажу толькі, што неўзабаве ў поле зроку трапілі трое грамадзян суседняй Літвы, якія два гады здымалі кватэру ў Мінску і займаліся камерцыйнай дзейнасцю, а калі больш канкрэтна, — продажам каляровых металаў. Іх будучыя ахвяры таксама займаліся бізнесам і мелі таксама "інтарэс" у гандлі падобным таварам. Пасля некалькіх кантактаў літоўцам удалося высветліць, што мінчане трымаюць пры сабе значную суму валюты — 16 тысяч долараў, на якія яны маюць намер прыкупіць партыю каляровых металаў. Спачатку іншаземцы зрабілі спробу авалодаць доларамі падманным шляхам, а калі гэта не ўдалося, расстралялі іх уладальнікаў ва ўпор проста ў машыне, якую потым адагналі ў лес і там трупы выкінулі. Дадамо, што ў працэсе раскрыцця гэтага злачынства нам давялося ўзаемадзейнічаць з літоўскім дэпартаментам паліцыі, які дапамог устанавіць сякія-такія факты, звязаныя з жыццём і дзейнасцю падазраваемых у забойстве.

**— Лічыцца, што большасць кватэрных крадзяжоў і разбойных нападаў робіцца па чыёйсьці наводцы. Гэта сапраўды так?**

— Так.

**— І хто тыя наводчыкі?**

— Па-рознаму бывае. Але ў ролі галоўнага "наводчыка" выступае, ведаеце хто, — наша прэса. А калі больш дакладна, рэклама і аб'явы аб куплі-продажы, якія яна змяшчае.

**— Змяшчае не ад добрага жыцця...**

— Я разумею, але, тым не менш, рэкламныя аб'явы, як гэта ні парадаксальна, ускладняюць у нас крымінагенную абстаноўку. Вось вам некалькі прыкладаў. Мы даўно заўважылі, што варта ў газетах з'явіцца аб'яве: "Куплю каляровыя металы ў неабмежаванай колькасці", як чакай ужо назаўтра ці паслязаўтра сігналаў аб тым, што на некалькіх прадпрыемствах у горадзе зніклі сілавыя медныя кабелі, у выніку чаго некаторыя цэхі вымушаны былі спыніць працу.

Кожны раз разбіраючыся з чарговым кватэрным крадзяжом ці разбойным нападам, нашы аператыўнікі абавязкова пытаюцца ў пацярпелых: "Вы давалі якую-небудзь аб'яву аб продажы рэчаў?". У большасці выпадкаў аказваецца, што — давалі. "Званілі вам?" "Так, званілі". Злачынца дзейнічае па неаднойчы выверанай схеме: прачытаўшы аб'яву аб продажы футра, відэатэхнікі, залатых вырабаў, звоніць (звычайна з аўтамата) гаспадарам, дамаўляецца аб сустрэчы, а далей ужо, як кажуць, справа тэхнікі... Да слова, мы ў сябе таксама трымаем пад увагай усе рэкламныя аб'явы, што з'яўляюцца ў Мінску, бо ўсе гэтыя рэкламадацелі складаюць патэнцыяльную групу рызыкі.

**— Зараз шмат пішуць пра сапраўдную эпідэмію заказных забойстваў ледзь не ва ўсіх краінах СНД, у першую чаргу, вядома, у Расіі. А як з гэтым у нас?**

— Дарэчы, ахвярамі прафесійных забойцаў-кілераў з'яўляюцца таксама, як правіла, прадстаўнікі камерцыйных структур. Два такія забойствы адбыліся і ў Мінску. Адзін — пазалетась, на праспекце імя Машэрава, пра яго досыць многа пісалі. Забіты, як можна меркаваць, са стрэльбы з аптычным прыцэлам нехта Ліснічук быў звязаны з некалькімі прыватнымі фірмамі, якія мелі выхады далёка за межы рэспублікі. І яшчэ было адно падобнае забойства, якое знаходзіцца ў стадыі расследавання, але ёсць перспектыва раскрыць і гэтае злачынства.

**— Забойстваў у нас усё-такі менее, ці, наадварот, становіцца больш?**

— На жаль, больш. За 11 месяцаў мінулага года ў Мінску было забіта, як я казаў вышэй, 98 чалавек, гэта на 5 чалавек больш, чым за адпаведны перыяд пазалеташняга года.

**— Колькі з іх засталіся нераскрытымі?**

— Семнаццаць. Восемдзесят з нечым працэнтаў раскрываемасці забойстваў — неблагі паказчык, і тут мы ідзём уперадзе ў параўнанні і з Масквой і з некаторымі іншымі сталіцамі краін СНД. Адно удакладненне — у 98 забітых уваходзяць і тыя, што лічацца прапаўшымі без вестак. Скажам, паехаў чалавек купляць машыну і некуды знік. Па такіх фактах пракуратура часта ўзбуджае крымінальную справу менавіта па сотым артыкуле КК — забойства, хоць гэта мог быць няшчасны выпадак, самагубства і да т. п.

**— Злоўленыя забойцы — людзі прыезджыя ці мясцовыя жыхары?**

— Амаль цалкам мінчане.

**— Які ён, сацыяльны партрэт сучаснага злачынцы?**

— Як правіла, гэта асобы, якія ўжо зведалі турэмныя нары, у момант здзяйснення злачынства нідзе не працавалі, яшчэ адна істотная прыкмета — у іх нізкі адукацыйны цэнз.

**— Як вы ставіцеся да тэорыі Ламброза аб спадчыннасці злачынных схільнасцей у чалавеку? Наша афіцыйная навука яе начыста адвяргала.**

— Начыста адвяргаць наогул нічога не трэба. У тым ліку і тэорыю Ламброза. Але ж яна, калі не памыляюся, лічыць, што патэнцыяльнага, скажам, забойцу вызначаюць і спецыфічныя фізічныя прыкметы, напрыклад, нізкі лоб, скошаны падбародак, нейкія спецыфічныя бугры на галаве і да т. п. Ведаеце, мне даводзілася мець справу з забойцамі, прытым, забойцамі-садыстамі, з тварамі анёлаў. Не адвяргаючы, што, скажам, тэмперамент, характар, нейкія фізіялагічныя асаблівасці, якія адыгрываюць пэўную ролю ў паводзінах чалавека, могуць перадавацца па спадчыне, трэба ўсё-такі канстатаваць — злачынцу нараджае асяроддзе і ў першую чаргу сям'я.

**— Відаць, злачынства, як і хваробу, лягчэй папярэдзіць, чым потым з ім змагацца...**

— Гэта ўсё правільна. Але вы пагледзіце, якая нізкая прававая свядомасць у нашых грамадзян. Растлумачу гэтую сваю думку на адным прыкладзе. Уявіце такую карціну. Ідзе раскрыццё цяжкага злачынства. На месца здарэння выехала аператыўная група і пачынае следчыя дзеянні — пошук улік, выяўленне сведкаў і да т. п. І вось тут нам даводзіцца сустракацца з праблемай, пра якую, я ведаю, і не чулі, напрыклад, у той жа Швецыі, Англіі ці ЗША. Праблема гэтая — нежаданне многіх грамадзян, што маглі стаць выпадковымі сведкамі здарэння, выступаць у гэтай ролі, супрацоўнічаць з міліцыяй. Мы пачынаем упрошваць: не хочаце гаварыць пры людзях, патэлефануйце інкогніта па тэлефоне, толькі падзяліцеся з намі тым, што вам падалося падазроным, каго з незнаёмых людзей бачылі паблізу месца злачынства.

**— Баяцца помсты?**

*(Працяг на стар. 12)*

# "Я ПРАВЕЎ СВОЙ НАРОД ПРАЗ ЯГО ГІСТОРЫЮ..."

**Урачысты вечар, прысвечаны 60-годдзю народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава, прайшоў у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Сабраліся прадстаўнікі грамадскасці, афіцыйных колаў, шматлікія прыхільнікі таленту Івана Гаўрылавіча. Ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі юбіляра павіншаваў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта М. Сазонаў. Прывітальны адрас, падпісаны прэм'ер-міністрам дзяржавы М. Чыгіром, зачытаў яго намеснік У. Русакевіч. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, паэт А. Вярцінскі віншаваў калегу па пяры ад імя Старшыні Вярхоўнага Савета М. Грыба.**

**Былі і іншыя афіцыйныя віншаванні. Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч падараваў юбіляру яго партрэт і выказаў пажаданне, каб ніколі не плакала на Беларусі перапёлка. Актыўнасць жыццёвай пазіцыі І. Чыгрынава, плённасць яго мастакоўскіх набыткаў адзначалі, вітаючы юбіляра, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі М. Ганчарык і старшыня Мінгарвыканкама А. Герасіменка.**

**Пра ўклад І. Чыгрынава ў развіццё беларускай літаратуры гаварылі вядучы вечара старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак і дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі В. Каваленка.**

**У заключэнне да прысутных звярнуўся сам юбіляр. Падзякаваўшы за шчырыя віншаванні, Іван Гаўрылавіч зазначыў: "Я шчаслівы, што за гады літаратурнай працы мне ўдалося правесці свой народ праз яго гісторыю — ад хрышчэння да чарнобыльскай бяды, якую перажываю найбольш востра".**

**А завяршыўся ўрачысты вечар спектаклем "Звон — не малітва".**

# І СПРАВАЗДАЧА, І ВЫБАРЫ

**Адбылося справаздачна-выбарчае пасяджэнне секцыі прозы СП Беларусі. Пра работу секцыі ў справаздачны перыяд расказаў старшыня секцыі Алесь Жук. Сябры секцыі дапоўнілі паведамленне старшыні і выказалі прапановы аб тым, як разнастаіць і пашырыць работу секцыі ў будучым. Затым адбыліся выбары. Новым старшынёй секцыі прозы абраны Леанід Левановіч, намеснікамі старшыні — Анатоль Сульянаў і Барыс Пятровіч, сакратаром — Андрэй Федарэнка.**

# "АД ПОЛАЦКА І НЯСВІЖА..."

Ад Полацка
і Нясвіжа
да Падуі
і Венецыі

Da Polazk
e Niesvij
a Padova
e Venezia

**"Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі" — так называецца кніга, на прэзентацыю якой прыйшлі дыпламаты, парламентарыі, міністры, дзеячы навукі і мастацтва. Гаворка за "круглым сталом" Дома літаратара вялася не столькі пра саму кнігу, колькі пра падзею, што стаяла ля яе вытокаў. Маецца на ўвазе святкаванне 500-годдзя Скарыны ў Падуі ў 1992 годзе і праведзеная тады ж Першая беларуска-італьянская канферэнцыя ў Венецыі. Матэрыялы канферэнцыі і склалі кнігу, выдадзеную з дапамогай Фонду Чыні (Венецыя).**

**З кароткімі прамовамі выступілі пасол Італіі ў Беларусі сп. Берцінета і міністр замежных спраў РБ У. Сянько.**

**Пра ўрачыстасць у Падуанскім універсітэце расказалі экс-міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, намаганнямі якога ў значнай меры і здзейснілася культурная акцыя, і аўтар мемарыяльнай дошкі, скульптар Валеры Янушкевіч. Мастачка Нэлі Шчасная падаравала Нацыянальнаму навукова-асветнаму цэнтру імя Скарыны сваю гравюру.**

**Адам Мальдзіс, адзін з "хросных бацькоў" акцыі і дырэктар згаданага цэнтра, назваў усіх, хто спрычыніўся да падзеі і выхаду кнігі, а таксама падзякаваў фундатарам: навукова-вытворчаму цэнтру "Аднова" (генеральны дырэктар сп. Кудрэйка) і універсаму "Цэнтральны" (дырэктар сп. Грыгор'еў) — за магчымасць святочнага прадстаўлення навуковага выдання. Італьянскае шампанскае разам з напоем "Скарынаўка" сталі заключным акордам прэзентацыі.**

# СМУТНАЮ ПАРОЮ НЕЛЮДЗІМАЙ...

## БЛІЦ-АНКЕТА "ЛіМа"

***ЯКАЯ КНІГА (ТВОР, ПУБЛІКАЦЫЯ) МІНУЛАГА ГОДА ЗАПОМНІЛІСЯ, ЯКОЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ІМЯ ЗВЯРНУЛА НА СЯБЕ ВАШУ ЎВАГУ?***

***Апытанні такога роду, мабыць, не адлюстроўваюць усёй літаратурнай панарамы за 1994 год. Колькі чытачоў, столькі падыходаў, крытэрыяў, густаў. Калі ж чытач — паэт, празаік, перакладчык, крытык, то элемент суб'ектывізму будзе яшчэ большым. Могуць выпасці з поля зроку асобныя значныя творы і публікацыі, цэлыя жанры... Тым не менш, пэўная карціна ўсё ж ствараецца. Дапоўніць яе пры жаданні маглі б і чытачы — не літаратары. Іх водгукі мы ахвотна змесцім на нашых крытычных старонках.***

## Лідзія АРАБЕЙ:

— Некалі, працуючы ў выдавецтве "Беларусь", а пасля ў рэдакцыі часопіса "Полымя", я павінна была чытаць усё, што начальства клала на мой стол. І хоць часам ад чытання некаторага рукапісу рабілася ледзь не млосна, я мусіла дачытваць яго да канца, каб па службе зрабіць сваё заключэнне.

Пайшоўшы на вольны хлеб, дазволіла сабе раскошу не чытаць таго, што не падабаецца. І цяпер, перагарнуўшы некалькі старонак сумнага, шматслоўнага рамана, я пакідаю яго. Можа, і дарэмна, можа, трэба было б пераадолець які бар'ер і ўчытацца? Ды навошта сябе прымушаць!

Так што не магу гаварыць пра шмат якія творы, надрукаваныя ў гэтым годзе, а толькі пра тое, што запомнілася.

А запомнілася мне аповесць Уладзіміра Ліпскага "Аўцюкоўцы", надрукаваная ў N 5 часопіса "Полымя" за мінулы год. Гэта аповесць, — нібыта невядомы дасюль востраў, адкрыты ў нашым, такім няпростым жыцці.

На зямлі, прысыпанай чарнобыльскім попелам, жывуць людзі, душы якіх не крануў гэты попел. У нашым жорсткім, часам грубым жыцці яны захавалі спагадлівасць, добразычлівасць, жанчыны там — калінкі, а мужчыны — каласкі. Пра сваё гора, пра свае радасці яны расказваюць з гумарам, з філасофскім спакоем.

Яны смяюцца з сябе, са свайго суседа, з розных з'яў і праяў навакольнага жыцця. Яны падобныя на габраўцаў альбо шатландцаў, пра якіх складзена шмат анекдотаў, яны нібыта дзівакі, але на самай справе мудрэйшыя за шмат якіх напышлівых разумнікаў.

Да таго ж, у наш час, калі друкаванае слова часта наводзіць на сум, малюе навакольнае жыццё чорнымі фарбамі, "Аўцюкоўцаў" Уладзіміра Ліпскага проста весела, прыемна чытаць.

І яшчэ адзін твор мне запомніўся — гэта невялічкае апавяданне Анатоля Крэйдзіча "Мурашнік" ("ЛіМ" за 2 верасня 1994 г.).

Мурашкі выбралі няўдалае месца для свайго мурашніка, пабудавалі яго ледзьве не на самай дарозе, і хто б ні ішоў — пешы ці конны, знарок ці незнарок раскідаў, бурыў іх жытло. А мурашкі зноў і зноў цярпліва яго аднаўлялі. Вось і ўвесь змест апавядання. Але яно напісана з такім спачуваннем і любасцю да гэтых маленькіх, такіх працавітых і ўпартых істот, з такімі трапнымі назіраннямі натураліста, і такая тут аналогія!..

Мурашнік — наша Беларусь, што ляжыць на шырокай дарозе Еўропы, яе паляць, разбураюць ворагі, а яна зноў і зноў уваскрасае з попелу.

Ёсць і яшчэ добрыя публікацыі — у "Полымі", "Маладосці", "ЛіМе", яны сведчаць пра тое, што беларуская літаратура жыве і будзе жыць, але, я думаю, пра іншыя творы скажуць іншыя.

## Уладзімір АРЛОЎ:

— Адразу хачу папярэдзіць, што буду весці гаворку пра **свой** 1994-ты — бо зорны (каляндарны) год з ягонымі выбарамі прэзідэнтаў, рабаваннем грамадзян, публікацыяй твораў ды ўсімі іншымі "каардынатамі быцця" наўрад ці калі-небудзь можа быць тоесны таму году, які пражыў асабіста ты.

З **майго** мінулага года найбольш запомніліся раманы "Валхвец" ("The Magus") англічаніна Джона Фаўлза і "Пра герояў і магілы" аргенцінца Эрнеста Сабаты, што не без поспеху вядзе эстэтычную і філасофскую палеміку са сваім знакамітым суайчыннікам Хорхе Луісам Борхесам, які апошнім часам зрабіўся ў нас для часткі пішучай брацііі ледзьве не галоўным літаратурным аўтарытэтам усіх часоў і народаў.

Што да тутэйшых аўтараў, дык, натуральна, прыцягнула ўвагу публікацыя версэтаў У. Арлова ў 3-м нумары новай "Крыніцы" і "Сібірскай аповесці" таго самага аўтара ў 4-м нумары таго самага часопіса. (На момант, калі пішуцца гэтыя радкі, ні адзін, ні другі з названых нумароў па незалежных, як той казаў, ад рэдакцыі прычынах у свет яшчэ не выйшлі, а таму згаданыя творы нікому з удзельнікаў анкеты, напэўна, не запомніліся).

З айчынных літаратараў звярнулі на сябе ўвагу таксама імёны купецкага старасты Трафіма Сурты і рэгента магістрацкае канцылярыі Юрыя Трубніцкага, аўтараў "Магілёўскай хронікі", якую я рыхтаваў да друку ў па-ранейшаму родным выдавецтве "Мастацкая літаратура" разам з усім пакутным томам беларускіх летапісаў і хронік, што ў перакладзе на сучасную беларускую мову павінен з Божай дапамогай усцешыць чытачоў у 1995-м.

Калі казаць пра творы больш сціплага жанру, дык урэзаўся ў памяць бліскучы водгук чытача Б-ва на маё паведамленне пра былую каханку Генры Мілера (гл. анкету ў леташнім перадгнавагоднім нумары "ЛіМа"), якую пасля некалькіх гадоў пошукаў удалося знайсці ў менскім мікрараёне Серабранцы (а не ў Малінаўцы, як сцвярджалася раней), дзе яна жыве на мізэрную, не па заслугах перад прыгожым пісьменствам, пенсію, прытаргоўваючы півам каля універсама "Палессе". Сэнс гэтай чытацкай эпісталы, вытрыманай у лепшых традыцыях нацыянальна свядомай цнатлівасці, зводзіўся да таго, што беларуская жанчына ніколі не раскрыла б абдымкаў гэткаму вусцішнаму жлукталю, распусніку, аматару ненарматыўнай лексікі etc.

Такім чынам, год усё ж не прайшоў марна.

## Леанід ГАЛУБОВІЧ:

— Усё яшчэ чуюцца галасы — і пераважна чамусьці з пісьменніцкай ваколіцы, — што беларуская літаратура памірае, а паэзія — увогуле даўно нябожчыца. Адзін з жывых Ерафеевых нават наважыўся быў адпяваць усю савецкую літаратуру на старонках "Литературной газеты". З'яўляюцца і айчынныя "хаўтуршчыкі"...

Аднак наша літаратура, калі і моцна хварэе, то мае дастатковы ўнутраны патэнцыял, назапашаны спрадвечнай эвалюцыйнай культурай продкаў-крэўнікаў, каб не губляць спадзеву на сваё выздараўленне. Апынуўшыся цяпер, скажам там, у рэанімацыйным блоку, яна "змагаецца" не столькі за чытача, колькі за самую сябе. Яна самаўдастаткоўваецца, самаўсведамляецца, убіраючы і перастраўліваючы на зломе хваравітага часу адметны вопыт еўрапейскай і сусветнай культуры...

Шкада будзе, калі яна — неўпрыкмет для сябе — склератычна выпусціць з памяці свой нацыянальны знак: традыцыю, каларыт, народнасць...

Апошнім часам намагаецца мудрэць і наша паэзія, хоць, вядома, аніяк не зможа стаць вышэй самое сябе.

"Когда б вы знали, из какого сора растут стихи..." — апраўдвалася Ганна Ахматава, але як бы яна — арыстакратка — адрэагавала на тое, што вершы могуць "вырастаць" і з самых каштоўных мінералаў, як гэта здараецца ў "постсавецкай простлюдзінкі" Галіны Булыкі?!

Беларуская жаночая паэзія "зачала" ад мужчынскай, па сутнасці ад Таленту (дзякаваць Богу, што былі ў нас выдатныя паэты), адсюль і плён, і наспелая пладаноснасць, і пытанне да мужоў-прарокаў:

**Млын,**
**заценены лісцем стрымцелым і чорным,**
**У міжрэчную выспу забіты,**
**бы кол,**
**Круціш духам якім**
**ненажэрныя жорны,**
**Мелеш чорту якому**
**зярністы падзол?**
**То пратнуцца нябёсы**
**арліцай залётнай.**
**То патоне**
**прыблудных варон чарада.**
**То з усходу на захад,**
**То ў бок адваротны**
**Без дарог**
**круціць хісткае кола**
**Вада.**
**Дзе ж той волат,**
**што выспу падніме на плечы**
**І стрывае ў няўмольнай**
**чужой пустаце,**
**Аж пакуль азярынка**
**на ростані рэчак,**
**Як дзіцячае цемечка,**
**Не зарасце?..**

Лепшай кніжкай года лічу паэтычны зборнік "Турмалін" вышэй згаданай і працытаванай аўтаркі.

Найбольш адметнае імя для мяне ў беларускай прозе апошняга часу — Андрэй Федарэнка, хоць выпушчаная ім у літаратурны свет кніга "Смута" дарэшты гэтае імя не раскрывае.

Уразілі і паўплывалі на творчы тонус: новы часопіс "Крыніца", кніжка "Сны на чужыне" Янкі Юхнаўца, літаратурныя постаці — у творчасці і па-за ёю — Надзеі Артымовіч з Бельска і Міколы Купрэева з Папялёва... Са шкадаваннем і самотаю назіраю за згасаннем (і творчым, і выдавецкім) віленскай "Нашай Нівы"... І ўсё ж жыву творчым спадзяваннем. Літаратура для гэтага самы прыдатны занятак.

## Яўген ГАРАДНІЦКІ:

— У наш роспачны час, калі ў паветры, здаецца, лунае думка — а ці не настае ўвогуле канец ўсяму? — варта дзеля духоўна-псіхалагічнай раўнавагі хоць зрэдку засяроджвацца на чымсьці жыццёвым і перспектыўным. Пакуль яшчэ не прагучаў канчатковы вырак хвораму грамадству (рэанімацыі не падлягае!), ёсць сэнс паспрабаваць адшукаць здаровыя, непашкоджаныя распадам участкі, якія, злучыўшыся, маглі б скласці аснову здаровага арганізма.

Новыя імёны, новыя творы, новыя ідэі... Яны сёння патрэбныя, як ніколі. Бо іх наяўнасць, іхні прыход могуць якраз і засведчыць калі не рашучы паварот да лепшага, дык зрухі ў гэтым кірунку. "На іх у мяне надзея..." — гэтыя словы, як запавет, як сімвал веры, пакінуў, адыходзячы, Уладзімір Караткевіч.

Нельга ў аднучассе абнавіцца, новыя сілы набіраюцца пакрысе, спакваля, што не надта кідаецца ў вока сярод інтэлектуальнага рэзруху і душэўнай сумятні. Але рунь Адраджэння пачынае ўсё ж сям-там (на вышэйшых, незабалочаных мясцінах) выступаць выяўней. Дарэчы, магчымасць трымаць у руках факсімільную "Рунь" Максіма Гарэцкага — адна з прыемных азнак гэтага працэсу.

З кніжных выданняў канцэптуальнай навізной, аб'ектыўнасцю, сціласцю выкладу, стылёвай выразнасцю, густоўнасцю афармлення прыйшлася да душы кніга Генадзя Сагановіча "Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст." у ілюстрацыях Сяргея Харэўскага. Гэтую невялікую кніжачку, што злечвае ад безагляднага гістарычнага рамантызму, чытаў непаспешліва і са смакам, бы мастацкі твор.

На працягу прамінулага года не раз і не два з глыбокімі, аналітычнымі публікацыямі на старонках "ЛіМа" выступаў магілёвец Васіль Аўраменка — імя новае ў беларускай публіцыстыцы, але, упэўнены, невыпадковае. Ягоныя выступы характарызуюцца жанравай і тэматычнай разнастайнасцю (тут і невялічкае літаратуразнаўчае эсэ, натхнёнае паэмай Алеся Разанава "Гліна"; і аналітыка-псіхалагічны дослед беларускага і расійскага менталітэтаў, прыроды імперскасці; асэнсаванне ўрокаў гісторыі і роздум над актуальнымі праблемамі сучаснага жыцця). Адна з галоўных высноў Аўраменкі — думка пра бесперспектыўнасць замыкання на вузкакультурніцкіх інтарэсах, пра неабходнасць пранікнення нацыянальнай свядомасці ва ўсе сферы духоўна-практычнай дзейнасці беларуса.

Мабыць, адно гэта й можа выратаваць нас, як народ.

## Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ:

— Восенню трапіў у рукі тоўсты том К. Мерляка "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі". "Праца — успамін" — як вызначае жанр гэтага твора аўтар. Своеасаблівая аўтабіяграфія, справаздача аб пражытым, кніга зрабіла на мяне моцнае ўражанне і як першая сур'ёзная гісторыя беларускай паваеннай эміграцыі 1945—1990 гг. (прынамсі, многіх яе аспектаў), напісаная дасведчаным чалавекам, удзельнікам тых падзей, і маштабам асобы самога аўтара, які адначасова з'яўляецца і героем гэтай "працы-ўспаміну". З яе я ўпершыню даведаўся пра многія моманты ў блуканнях беларускай ідэі на эміграцыі, палітыку т. зв. "непрадрашэнства", канфлікты ў асяроддзі яе дзеячаў, нават пра асобныя аспекты дзейнасці вядомага савецкага разведчыка К. Філбі.

Што ж тычыцца асобы аўтара, дык сёння, гаворачы літаратуразнаўчай мовай, такі тып чалавека, як Кастусь Мярляк, упаўне прэтэндуе на культурнага героя сучаснай нашай літаратуры. Скажу без значнага перабольшання: яго ініцыятыўная і прадуманая дзейнасць, арыентаваная на карысць грамадства, яго сацыяльную і нацыянальную арганізацыю, змаганне з дэструктыўнымі сіламі, што перашкаджаюць людзям жыць сваім жыццём, — сведчыць пра не абы-якія духоўныя магчымасці нацыянальнага характару беларуса, пра трывушчасць яго прыродных, "базавых" сіл, урэшце пра яго дзяржаўную дбаласць і розум.

Цікавая мова, запомніліся словы: палагодзіць, талераваць, прысабечыць, якія ў нас пакуль што не ўжываюцца. Шкада. Добрыя, дакладныя словы.

На другое пытанне — пра новае імя з ліку маладых — мне адказаць цяжэй...

## Алег ЖДАН:

— Прызнаюся: раман Міколы Кусянкова "Явар і каліна" я прачытаў на рускай мове, як рэдактар, у выдатным перакладзе У. Машкова. Больш таго — падчас чытання думаў не столькі пра аўтара, колькі пра перакладчыка: як жа цяжка было яму перадаць нязмушаную спавядальную гаворку рамана, перарывістае дыханне маналогаў... Але ж шмат старонак прачытаў і ў арыгінале: у "Нёмане", дзе я працую, да перакладаў ставяцца ўважліва і на стале рэдактара — для параўнання, удакладненняў — ляжаць абодва экземпляры, і беларускі, і рускі.

Вельмі простая і адначасова адмысловая пабудова гэтага твора: то нібыта неабавязковыя жарты ды кепікі, то драматычныя сітуацыі, што кранаюць ужо не розум, а душу; то сцежка ў лесе, на якой месцяцца толькі дзве постаці — дзяўчыны ды хлопца, то — прагаліна, дзе відаць ужо лёс маўклівага народа, пра які, уласна кажучы, і гаворка.

Ёсць і крытычныя заўвагі па некаторых старонках. Як без гэтага? Без заўваг не жывём... Паўторы шмат якіх дэталяў і эпізодаў уваходзяць у канструкцыю рамана, але ж падчас іх занадта многа, не такі ўжо бяспамятны я чытач, каб напамінаць тры, а мо й чатыры разы пра тое, як Гаркуша напужаў "цешчу"... Ёсць непатрэбныя, на маю думку, сцэны, напрыклад, любоў на печцы, ад якой аж трэскаюцца цагліны. Вядома, смешна, але ж крыху й не па сабе ад гэткіх любошчаў.

Думаю, што раман "Явар і каліна" найбольш прыкметная з'ява літаратурнага года.

З імёнаў назаву добра знаёмыя: Адам Глобус (апавяданне "Гісторыя ката", "Наша Ніва", N 16) і Алесь Асташонак (апавяданне "Жоўты колер белага снегу", "Крыніца", N 1/7). Творы палярна розныя — і па паэтыцы, і, відаць, па светаадчуванні аўтараў. У А. Глобуса — сапраўды пакутлівае станаўленне душы і светапогляду маладога чалавека, у А. Асташонка — яе, неўміручай душы, разбурэнне.

Калі б паказаць графічна маю чытацкую цікаўнасць да памянёных тэкстаў, дык для рамана М. Кусянкова я вычарціў бы парабалу з малым — напачатку — значэннем па восі "у", з багатым — па "х", дзе "у" — жыццё асобы, "х" — народа; для апавяданняў А. Глобуса і А. Асташонка — наадварот, г. зн. — класічную экспаненту.

## Юрась ЗАЛОСКА:

— Хоць у падтэксце пытання і "прачытваюцца" літаратары і літаратура беларускія, аднак жа, мяркую, больш слушным — і карысным — было б гаварыць пра імёны і творы з усяго літаратурнага абшару. Часта бо запамінаюцца і ўражваюць якраз рэчы замежнай літаратуры; так ужо складваецца — сучаснаму літаратару наканавана бесперапынна вучыцца, і чым большы абсяг яго цікавасці, тым большая верагоднасць, што вырасце мясцовы "Джойс".

Дык вось. "Патрэбная кніга — у патрэбны час". Не ведаю, ці гэта ўласная формула Г. Гурджыева, ці яго адмысловы пераказ мудрасці даосаў, аднак жа толькі ў 1994 годзе да мяне "прыйшла" дзіўная, неверагодна зробленая (па форме) рэч — "Хазарскі слоўнік. Раман-лексікон на 100000 слоў. Фрагменты" Мілорада Павіча (друкаваўся ў 1991 г. у часопісе "Иностранная литература"). Відаць, павінен быў прайсці пэўны час, каб гэтая рэч змагла быць успрынятай маёй чытацкай свядомасцю. Найбольш уразілі дзве акалічнасці. Папершае, віртуознае выкарыстанне белетрыстычнай формы (пра гэта трэба гаварыць асобна), па-другое, т ы м н е м е н ш, правядзенне праз сюжэт-містыфікацыю пэўных культуральных, тэалагічных, этычных і г. д. ідэй (тут як хто расчытае). Карацей, створана нешта п р ы н ц ы п о в а н о в а е, дасюль нязнанае — творкамп'ютэр, альбо, яшчэ трапней, твор — "кубік Рубіка": адзін і той жа тэкст дазваляе пабудаваць N + 1 варыянт "сюжэтнай лініі", г. зн. выдатна дэманструе рэлятыўнасць усялякага роду "лінейнай" белетрыстыкі; акрамя таго, М. Павіч здолеў бліскуча паказаць м е т а ф і з і ч н у ю н е з а л е ж н а с ц ь аўтара літаратурнага твора ад формы, якой бы складанай яна ні была. Вядома, стварыць такую рэч можна было, толькі валодаючы немалым інтэлектам. Выніковая "мараль" трывіяльная: вучыцца, вучыцца і вучыцца...

У гэтым сэнсе павучальны вопыт Таццяны Шамякінай, чыя даследчыцкая творчасць у мінулым годзе найбольш прыцягнула маю ўвагу сярод айчынных аўтараў. Праўдзівей, нарысы Т. Шамякінай па сусветнай міфалогіі зацікавілі яшчэ з сярэдзіны 1993 г., калі яны пачалі друкавацца ў часопісе "Роднае слова" (на мой погляд, адным з лепшых на сёння беларускіх часопісаў). Т. Шамякіна зрабіла тое, што зрабіць вельмі цяжка, аднак жа, падаецца, што толькі і мае каштоўнасць у плане культурным: не проста скампілявала, як гэта часта робіцца, процьму міфалагічных, эзатэрычных і акультных звестак (што для беларускага дыскурсу само па сабе патрэбна), але с а м а с т о й н а в е р с і ф і к а в а л а міфалагічную традыцыю, зыходзячы з уласнага яе разумення. Карацей кажучы, парадкуючы багаты пазнаваўчы матэрыял, здолела захаваць неабходную ступень самастойнасці ў яго асэнсаванні. Гэта і ёсць вырашальная прычына, што абумовіла адпаведнае да аўтаркі стаўленне.

Між іншым, было б натуральным пабачыць у новым ці наступным годзе і к н і г у вышэйпамянёных нарысаў.

Названыя рэчы запомніліся найбольш. Вядома ж, яны не адзіныя з тых публікацый і кніг года, што выклікалі асаблівую ўвагу. Сярод іх мог бы назваць нарыс С. Судніка "Падарожжа ў Краіну Арыяў" ("ЛіМ", 2-9.09.1994), кнігу паэзіі Б. Лесьмяна ў перакладзе А. Мінкіна "Пан Блішчынскі" ("Мастацкая літаратура"), эсэ С. Паўлоўскага "Ідэя Мёртвага Дому" ("Наша Ніва", N 3, 1994 ), корпус тэкстаў, прысвечаных В. Ластоўскаму ("Крыніца", N 8/2, 1994), корпус тэкстаў, змешчаных сёлета ў літаратурна-філасофскім сшытку "ЗНО" ("Культура").

## Ніна МАЦЯШ:

— Не магу пахваліцца, што праз мае рукі праходзіць шмат перыёдыкі: замінае нездароўе. А сёлета й пагатоў меней чытацьму: няма грошай, каб набыць нават жаданыя выданні. Лепшай публікацыяй на **гэтую тэму** бачыцца апавяданне Раісы Баравіковай "Я не Вальтэр, але..." ("ЛіМ" за 11.XI.94 ). Няблага, нават пажадана й сучаснаму творцу мець вальтэраўскія асвечанасць ды дасведчанасць. Што ж да вальтэраўскай знішчальнай з'едлівасці ў выкрыцці заганаў чалавечага супольніцтва, дык валоданне ёю неабавязковае. Можна, як гэта патрапіла Р. Баравікова, і па-жаночы далікатна, з мяккай іранічнай усмешкай выпукліць недарэчнасці пэўнага, абмежаванага прасторай і часам, свету. І мовай тонкага, неабразлівага досціпу ўзнімаць пытанні жыцця душы і Духу, быту і культуры. Не нова? Канешне, не нова. Аднак гэта не замінае мне парадавацца творчай удачы каляжанкі.

У свой час прасіла сябра перадаць маю ўсхваляваную ўдзячнасць і Генадзю Бураўкіну за сустрэчу з Сэрцам. Нанізка ягоных вершаў у 6-ым нумары "Полымя" прынесла сапраўдную асалоду ад прычасця Паэзіяй. Вершы Бураўкіна чыталіся з асаблівай увагай: апошнім часам паэт амаль не друкаваўся. Карцела пераканацца, што высільванне дзеля дзяржаўных патрэбаў Айчыны не знежывіла ў ім боскага творчага дару. Радасна, што паэт не развучыўся быць гранічна шчырым і не на паказ узрушаным. "Што тут паробіш, калі ўсе гады я нёс, нібы праклясце і заклясце, упартую адданасць роднай хаце і ўдзячнасць краю, дзе жылі дзяды". Споведзь паэта набыла гаркотныя ноткі — як складачкі горычы пры куточках вуснаў. І сталы ўзрост, і мудрая развага, і маладога сэрца трапятанне...

Як бы скрутна ні склалася з фінансамі, а ўсё ж падпісалася на "Крыніцу": вельмі й вельмі неардынарны, змястоўны часопіс стварылі хлопцы! Памянялася канцэпцыя выдання — і ўсё зынача́лася, і змест, і кшталт, Не дзіва, такі магутны склад рэдакцыі, згадайма хоць бы Разанава, Някляева, Арлова... Каб часопіс з нязменнай цікавасцю чытаўся ад першай да апошняй старонкі — здзеяць такое па сіле толькі гурту сапраўдных паплечнікаў і аднадумцаў: віншую, крынічане! А думаецца мне пра вас і ў сувязі з імем Аляксея Мельнікава. Не ведаю асабіста гэтага чалавека, але мне ён бачыцца ў вашай кагорце. Люблю ягонае пяро — глыбокага знаўцы беларускай рэлігійнай, духоўнай літаратуры. Сустракала яго, калі не памыляюся, на старонках "Спадчыны". Зараз маю сталую ўцеху — "Кнігу жыцій і хаджэнняў" ("Маст. літаратура", 1994). Таленавітае шчыраванне Ларысы Чарнышовай ды Сяргея Шупы не навіна для мяне. Імя ж Аляксея Мельнікава нячаста фігуруе ў друку, прынамсі, для нас, правінцыялаў. Вось і цяплее на сэрцы ад усведамлення, што не выпетрываецца культурная глеба беларуская, што родзіць яна — шчодра. І зноў услед за Г. Бураўкіным хочацца паўтарыць-памаліцца:

**Смутнаю парою нелюдзімай,**
**Калі ўсё вакол ідзе на злом,**
**Божа,**
**Захіні маю Радзіму**
**Мудрасцю,**
**Спакоем**
**І цяплом!**

## Уладзімір ПАЛУПАНАЎ:

— Так, напэўна, было наканавана лёсам, што гэтай восенню я адкрыў для сябе Сакрата Яновіча, хоць раней яго прозвішча было мне вядомае па публікацыях у беластоцкім "Часопісе", а таксама ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы "Ніва", дзе ён рэдагуе старонку літаратурна-мастацкага аб'яднання "Белавежа".

Адкрыццё звязана з амаль адначасовым прачытаннем яго эмацыянальнага артыкула ў "ЛіМе" 4 лістапада 1994 года і кнігі "Доўгая смерць Крынак" (Беласток-Бельск, 1993), ад якой я проста ў захапленні.

Пад уздзеяннем прачытанага прыгадалася, як я, адпачываючы летам 1990 года на ўзбярэжжы Балтыкі, пазнаёміўся ў сталоўцы санаторыя з маладжавай кабетай. Даведаўшыся, што я з Беларусі, яна накінулася на мяне: "Вы не беларусы, вы — трусы (у сэнсе, баязліўцы)! Ваш парламент размаўляе на чужой мове".

Я не знайшоўся, што ёй адказаць. Як высветлілася, сама яна была з-пад Беластока. "Во, — падумаў я сабе, — якія там жывуць свядомыя беларусы, не тое, што мы"...

Нядаўна Беларусь наведаў вядомы французскі журналіст і пісьменнік Філіп Ганье-Раймон. Больш за ўсё яго ўразіў той факт, што ён не чуў у Мінску беларускай мовы. А як вядома, цяпер у Францыі прымаюцца вельмі жорсткія захады адносна захавання чысціні і ўжывання французскай мовы. Не адстаюць ад французаў і палякі, як адзначае ў згаданым артыкуле Сакрат Яновіч. Я поўнасцю падтрымліваю яго думку аб тым, што "чыя ўлада, таго і мова ў ёй".

Здаецца, у Янкі Брыля, у адной з яго мініяцюр, напаткаў нешта такое: "Беларуса можна толькі прымусіць стаць беларусам". О, на вялікі жаль, гэта горкая праўда... Рускамоўным "патрыётам" непатрэбна беларуская суверэнная дзяржава, ім, як слушна сказаў Сакрат Яновіч, "трэба губерні".

Вельмі сугучны майму сэрцу і намёк спадара Яновіча "на нешта кшталтам Грамадскага інстытута абароны добрага імя Беларусі і беларускай культуры". Не адкрыю вялікага сакрэту, калі скажу наступнае: нас не паважаюць у свеце за тое, што мы не паважаем самі сябе і не баронім сваё! Таму ў нас няма па сёння свайго гімна, сваёй арміі, сваіх узнагарод, сваіх грошай... Таму зневажаецца дзяржаўная сімволіка.

Варта сказаць і пра апавяданні, якія моцна ўразілі мяне. Такім шчымліва знаёмым, родным павеяла ад іх, быццам напіўся з чыстай лясной крыніцы, падыхаў незабыўным паветрам дзяцінства. Агульнае ўражанне выкажу вядомым радком Янкі Купалы: "Сыходзіць вёска з яснай явы..." Гэта так яскрава падаецца ў апавяданнях Сакрата Яновіча. Вось толькі адзін урывак, які асабліва лёг на сэрца: "Чалавек, бачыш... адрываецца ад каранёўя свайго. Тлумачэнняў таго ёсцека, аднак цяжка ўказаць на галоўнае сярод іх. У гэтых людскіх вывараценях ёсць трагічнасць самаадрачэння... Можна дадаць: звярыны інстынкт, каб толькі наесціся. Ну і ў цяпле быць. Усё робім перш дзеля самога йснавання. Жыць жа трэба! /.../

Ці магло быць іначай? Не, не магло.

Цікава, сам пабач, што розум, з'явіўшыся ў чалавека, не змяніў яго сутнасці як жывое з'явы. Тады — дзеля чаго ён у ім, гэты розум? Усяго, каб ведаць, што жыве? Мала як бы... Каб болей і болей ведаць? Дык — нашто?

Каб працы пазбыцца, да раю дайсці? Але заўсёды будзе пытанне: а што далей?.." ("Занатоўкі для памяці").

І сапраўды: што далей?.. У адным перакананы разам з Сакратам Яновічам: далей пераможа розум. Ён павінен перамагчы, інакш мы страцім нават тое, што маем.

## Васіль СЁМУХА:

— З таго, што я сёлета прачытаў, мяне найбольш уразіла лібрэта оперы "Фаўст". Гэты твор знойдзены ў архіве Санкт-Пецярбурга і рыхтуецца да пастаноўкі Беларускай капэлай "Адраджэнне", заўзятымі рупліўцамі беларускай музычнай культуры Віктарам Скорабагатавым, Яўгенам Паплаўскім, Наталляй Скобелевай. Для мяне знаходка — самая радасная сенсацыя культурнага жыцця 1994 года.

Аўтар оперы — Антоній Радзівіл, сучаснік і сябра вялікага нямецкага паэта. Так, так, з тых самых Радзівілаў, з нашых, хоць і з прускай галіны.

Калісьці, перакладаючы "Фаўста", я чытаў матэрыялы да пастаноўкі оперы на Берлінскай сцэне ў 1828 годзе. Чытаў і ўстаўкі ў сцэнарый, напісаныя самім Гётэ. Якою мелася быць Радзівілава пастаноўка, не ведаю. Спектакль быў пастаўлены толькі ў 1836 годзе, ужо пасля смерці Гётэ і Радзівіла. Гэта опера ў 25-ці актах. Мяркуючы па лібрэта — містычна-меладраматычнага плана.

Чакаю ўзнаўлення твора на беларускай сцэне.

Другая нечаканка года — паўнакрылы ўзлёт В. Аколавай. У творчай гонцы 1994 года, якая пачалася ў здаровым прэзідэнцкім стылі, яна выперадзіла ўсіх і апынулася на вяршыні творчай вертыкалі. Як калісьці ў старажытных грэкаў сем гарадоў спрачаліся за права лічыцца радзімай Гамера, так сёлета ў беларусаў, кажуць, сем банкаў спрачаліся за права ўтачыць свае грошы ў творчасць, у жывы радок Аколавай. Перамаглі фірмы "Dainova", кампанія "Слава" і інш., — а мы, чытачы, цяпер маем адмысловы ў сваім родзе, непаўторны, унікальны, хвалены-недахвалены ўзор плённай прафанізацыі і здзеку з паэзіі вялікай расейскай паэткі М. Цвятаевай. І яшчэ маем цыкл вершыкаў, у кожным з якіх сапраўды па 14 радкоў (сам лічыў!), так бы мовіць — "санэты"! Што да ўсяго гвалту вакол "свята беларускай музы", дык каму смех, каму гілэхтар, бо колькі ні крычы "Халва! Халва!", а ў роце не пасаладзее...

## Андрэй ФЕДАРЭНКА:

— Абдумваючы адказ, успомніў адкрыты ліст да сябе В. Яраца, надрукаваны ў "ЛіМе", з папрокамі, што я ў гутарцы з Ю. Залоскам адных пісьменнікаў назваў, другіх — не (што, відаць, азначае, люблю не тых, каго "трэба любіць"). І падумалася — сапраўды, даволі небяспечная справа даваць адказы на пытанні, якія патрабуюць канкрэтыкі, пераліку імёнаў. Аднак рызыкну.

Гэты год выдаўся для мяне не з лепшых, не дужа да чытання было, таму, мабыць, нешта важнае, вартае ўвагі я прапусціў. З таго, што прачытаў, найбольшае ўражанне пакінула "Масеева кніга" Сяднёва. Укладаннем, зместам, моваю, духам яна розніцца ад нашых тутэйшых кніг. У некаторых месцах здаецца, што чытаеш не арыгінальны тэкст, а пераклад з якойсьці іншай мовы. Узяць хоць бы кароткія, часта адзін-два абзацы, рэцэнзіі — такія ёмкія, чытэльныя, дакладныя, і параўнаць з нашымі рэцэнзіямі, на 10—16 старонак... Альбо лісты (пісьмы), кожны з якіх, бадай, скончаны маленькі мастацкі твор. Эсэ, пераклады, нарысы... Вось адна цытата "З майго дзённіка": "Васіль Хомчанка прыслаў ліст і ў ім: "Бел-чырвона-белы лунае над Домам урада". Бел-чырвона-белы сцяг лунае, а беларускія часопісы спыняюць сваё існаванне. Няма нічога больш недарэчнага, як нічым не забяспечаная незалежнасць..." Або цытата з артыкула "Беластоцкі сшытак": "З задніх дзвярэй у залу ўвайшлі два жаўнеры, гучна прывіталіся сваім "Жыве Беларусь!". Мы адказалі дружным "Жыве!"... Іхняе вітанне скаланула мяне да глыбіні — упершыню я пабачыў, пачуў беларускіх жаўнераў (1944. — **А. Ф.**). Забягаючы наперад, скажу — хіба адсюль пачалася мая Беларусь, у гэтую часіну яна прайшла праз маё сэрца. Усвядомленая, яна не давала мне ўжо быць раўнадушным"... Аж дыхнула, калі можна так сказаць, Гарэцкім.

Таксама запомнілася публікацыя ў "Нашай Ніве" анкеты-апытання "10, на Вашую думку, лепшых пасляваенных кніг ці публікацый". Праўда, цяпер, дастаўшы тую анкету, убачыў, што яна выйшла ў канцы 93-га года. Але пытанне вельмі актуальнае, і проста дзіўна, што вынікі анкеты не атрымалі за ўвесь 94-ты год практычна ніякіх адгалоскаў. Вось бы "ЛіМу" такое ж правесці, скласці такі своеасаблівы "табель аб рангах", толькі апытаць не літаратараў, як зрабіла "Наша Ніва", а чытачоў — падпісчыкаў газеты. Мне здаецца, гэта варта зрабіць неадкладна, у першую чаргу, знайшоўшы ў газеце месца замест якога-небудзь палітычна-гістарычна-грамадскага артыкула (якія, на жаль, у большасці сваёй задужа расцягнутыя і нецікавыя). Упэўнены, што многія пісьменнікі цяперашнім часам зусім не ўяўляюць свайго чытача, не ведаюць "на каго працуюць", і такое адчуванне, што ўся маса мастацкіх кніг і публікацый паглынаецца пустатою.

## Іван ЧАРОТА:

— Лічу неабходным азірнуцца крыху назад і згадаць анкету трохгадовай даўнасці пра "міжчассе", калі я разам з іншымі спрабаваў думаць наконт таго, што адбываецца і што застанецца.

На жаль, дагэтуль трымаецца "міжчассе" і тое самае "зачараванае кола" не знікае. Прынамсі, люд творчы ўсё больш і больш палітызуецца, бярэ на сябе функцыі якія заўгодна, толькі не асноўным пакліканнем вызначаныя. Канкрэтна: мне найбольш запомніўся апублікаваны "ЛіМам" зварот сакратара секцыі прозы да калег, якія страцілі жаданне нават гаворку весці пра свае арганізацыйныя і творчыя справы.

Дазволю сабе паўтарыць: мы ўжо звыкаемся, што служэнне — гэта проста служба, адмаўляючы няпісаныя вышэйшыя законы, паводле якіх служэнне Слову абмяжоўваецца менавіта Словам, а Духу — можа адплаціцца толькі духоўным.

Незалежна ад усяго згаданага я асабіста песімізму не паддаюся. І бачу дастаткова прыкладаў, якія ўмацоўваюць надзеі.

Паколькі, відаць, іншыя анкетуемыя больш засяродзяцца на плёне ў паэзіі, прозе, драматургіі, хачу некалькі слоў сказаць пра літаратуразнаўства і крытыку, якія апынуліся ці не ў самым незайздросным стане.

Істотным наробкам лічу выдадзеныя тры кнігі "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей", падрыхтаваныя калектывам Інстытута літаратуры АН Беларусі. Як ні дзіўна, а за доўгі перыяд "вялікай дружбы народаў" нават факталогічны грунт гэтай сур'ёзнай праблемы не быў азначаны як след. І вось цяпер — у "міжчассе" — гэта робіцца.

Цікавасць выклікае таксама кніжка Я. Янушкевіча "У прадчуванні знаходак", якая здольна захапіць і знаходкамі, і менавіта настроем пошуку, заўсёдным прадчуваннем.

Асабліва хацелася б спыніцца на зборніку артыкулаў "Сумежжа" Алеся Яскевіча. Аўтар — з тых, хто не можа не выклікаць добрай зайздрасці ў сувязі з адданасцю праблемам надчасовым, глабальным, з трываласцю пазіцый, з прафесійнай і грамадзянскай адказнасцю за свае словы і справы.

Карацей кажучы, год пранёсся не як парожні грузавік, і дай Божа, каб наступны быў меней грукатлівы, болей стваральны.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ДАЖЫВЁМ ДА ДВУХТЫСЯЧНАГА...

Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Саюзам кампазітараў зацвердзіла план выпуску збораў твораў і выбраных твораў пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Беларусі на 1996—2000 гады. Чытачы атрымаюць навуковыя выданні Збору твораў Я. Купалы ў дзевяці тамах і М. Гарэцкага — у васьмі. Сярод масавых Збораў твораў мяркуецца выдаць наступныя: Б. Мікуліча — тры тамы, У. Дубоўкі — чатыры, К. Крапівы — шэсць, А. Кулакоўскага — чатыры, І. Чыгрынава — шэсць, Р. Барадуліна — пяць, Н. Гілевіча — шэсць, М. Стральцова — тры, М. Чарота — два, Л. Геніюш — тры, Я. Янішчыц — два.

Выйдуць выбраныя творы: А. Адамовіча — чатыры тамы, В. Адамчыка — тры, Г. Бураўкіна — два, А. Грачанікава — два, Л. Дайнекі — два, А. Звонака — два, В. Казько — тры, В. Карамазава — тры, А. Кудраўца — два, І. Навуменкі — тры, П. Панчанкі — два, М. Танка — два. Запланаваны аднатомнікі выбранага Л. Арабей, В. Блакіта, Т. Бондар, Э. Валасевіча, В. Гігевіча, Х. Жычкі, С. Законнікава, В. Іпатавай, К. Камейшы, У. Карызны, У. Конана, В. Коўтун, М. Кусянкова, А. Ліса, Г. Марчука, У. Някляева, А. Разанава, Н. Тулупавай, Г. Шупенькі.

У выдавецтвае "Навука і тэхніка" ўбачыць свет аднатомнік выбраных твораў М. Улашчыка.

Для падрастаючага пакалення выйдуць выбраныя творы В. Лукшы ў двух тамах, аднатомнікі У. Паўлава і У. Шыціка.

М. ЛУГАВЫ

## У ПЛАНАХ — "БІБЛІЯТЭКА "ЛІТАРАТУРА ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ"

Полацкае шматгаліновае вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "Дыяна" разам з групай энтузіястаў рыхтуе выпуск унікальнай "Бібліятэкі "Літаратура полацкай зямлі". Асобныя тамы прысвячаюцца карыфеям-асветнікам — Ефрасінні Полацкай, Францішку Скарыне, Сімяону Полацкаму. Чытачы атрымаюць таксама кнігі Яна Баршчэўскага, Янкі Журбы, Петруся Броўкі, Эдуарда Самуйлёнка, Тараса Хадкевіча, Алеся Савіцкага, Васіля Быкава, Еўдакіі Лось, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Валянціна Лукшы, Уладзіміра Арлова — іншых пісьменнікаў, якія нарадзіліся ці працавалі ў старажытным горадзе на Дзвіне.

М. ЛУГАВЫ

## У "ШКОЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ"

выдавецтва "Юнацтва" выпусціла раман Івана Пташнікава "Мсціжы". Гэта, як вядома, адзін з самых значных твораў слыннага майстра сучаснай нацыянальнай прозы. Праблемы адданасці бацькоўскаму куту, лучнасці з роднай зямлёй, якія з уласцівым яму глыбокім псіхалагізмам вырашае пісьменнік, надзіва актуальны сёння, калі ў свеце паменшала дабрыні і сумленнасці. Знамянальна, што з раманам у першую чаргу змогуць пазнаёміцца старшакласнікі, тыя, хто цяпер таксама знаходзіцца на свайго роду раздарожжы. Старыя ідэалы адмаўляюцца, а новыя часам вельмі ілюзорныя.

## ЛІСТАПАДАМ ПАЗНАЧАНЫ

чарговы нумар беларуска-польскага часопіса "Дыскусія", што выдаецца ў Польшчы. І гэтым разам у ім нямала матэрыялаў, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да жыцця нашай дзяржавы, нацыянальнай гісторыі. Шырока асвятляюцца, прынамсі, палітычныя стасункі паміж Беларуссю і Польшчай.

Але на першым плане матэрыялы па літаратуры, культуры. Г. Скібіска выступае з развагамі пра творчасць Я. Брыля "Успамін пра дзяцінства". Ч. Сенюк ("Трыумф Якуба Коласа") звяртаецца да "Новай зямлі" Я. Коласа. Тут жа падаецца раздзел з гэтага твора "Леснікова пасада" ў арыгінале і ў перакладзе на польскую мову. Сярод аўтараў нумара — С. Астраўцоў ("Імітацыя"), С. Яновіч ("Ад "Біблії" да беларускай літаратуры"), Н. Баршчэўская ("Стан і развіццё беларускай мовы ў канцы XVII— XIX стст.") і іншыя.

Паэзія

*Чытачам "ЛіМа", гэтак як і ўсім знаўцам айчыннай паэзіі, імя Міколы Жука — не адкрыццё Амерыкі. У свой час на старонках часопіса "Полымя рэвалюцыі" яго вершы друкаваліся побач з творамі Купалы і Коласа, якіх ён ведаў асабіста. Дарэчы, у 1935 годзе на старонках "Літаратуры і мастацтва" з'явіўся першы друкаваны верш Міколы Жука. У ваенныя гады Мікола Жук партызаніў на Любаншчыне; пасля вайны доўгія дзесяцігоддзі вучыў дзяцей і пісаў вершы, паэмы. Яны не часта і не ўсе друкаваліся, але перыядычна з'яўляліся на старонках "Полымя", "ЛіМа", іншых выданняў. У Міколы Жука багаты архіў, у якім не-не ды і пракідаюцца залацінкі, падгледжаныя вокам вяскоўца, вокам настаўніка і паэта.*

*Летась Мікалаю Андрэевічу споўнілася восемдзесят гадоў. У вёску Мерашына Слуцкага раёна, дзе жыве Мікола Жук, мы шлём яму шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця і творчых набыткаў, а чытачоў штотыднёвіка знаёмім з ягонымі творамі.*

*Уладзімір ПАЎЛАЎ.*

Мікола ЖУК



# "ХАЧУ, КАБ МЫ Ў ШЧАСЦІ ЖЫЛІ..."

### МАЯ ПЕСНЯ

Я паэтам жыву непрызнаным.
Ды які я і праўда паэт?!
Люба мне наглядаць, як уранні
З вішань сыплецца белы цвет.

Як туманы плывуць над ракою,
Як вятры у лістве шалясцяць,
Як палоскай святла залатою
Азарыцца ў калысцы дзіця.

І світанні, і зорныя ночы,
І расу, што блішчыць, як сляза, —
Сэрца ўсё маё помніць хоча,
Аб усім я хачу расказаць.

Словы ж цяжка знайсці, каб падня лі
Усю радасць людзей і красу.
Многа выхадзіў я ў родных далях,
Многа дум, спадзяванняў нясу.

Ну а словы ніяк не прыходзяць,
Ну а песні ніяк не зладжу.
Можа, я і завуся паэтам,
Што са светлым заўсёды дружу.

### СЛУЧЧЫНА

Я помню яе такой:
Сонца ўзыходзіць над борам,
Туманы плывуць над ракой,
Мятаю пахне, чаборам.

Звон адкляпаных кос,
Рыканне кароў ля аселіц.
Галінкі плакучых бяроз
Пад сонцам гарачым самлелі.

Да небакраю лугі
У кветках ружовых і сініх.
Буслы набіраюць кругі,
Знікаюць у небных вышынях.

На постацях спелых ніў
Першыя жнеі спяваюць.
Гарачыя летнія дні,
Чароўная свежасць начная.

Суніцы ў ставзонным бары,
Грыбы пад ігліцай і лістам...
З дзіцячае светлай пары
Я помню цябе прамяністай.

Я помню ў агні бліскавіц
Твае пасмутнеўшыя далі.
О, колькі было навальніц
У гуле пагібельнай сталі!

А выжыць усё-ткі змаглі
З дзяцьмі, назаўжды дарагімі...
Хачу, каб мы ў шчасці жылі
З табой, дарагая радзіма.

### У ПОЛІ

Я на світанні баюся заспаць —
З сонцам устану.
Хочацца светлыя песні складаць
Родным палянам.

Людзям, з якімі я вырас, жыву,
Мужным героям.
Ціха праходжу, а росы ў траву
Сыплюцца роем.

Бачу я неба і туманы,
Што над ракою,
Мяккіх лугоў-мурагоў дываны
Ў душным спакоі.

Нівы сцяною высокай стаяць,
Хіляць калоссі да долу.
Край мой любімы, ты — песня мая,
Шчасце і доля.

### ПАМЯЦІ ВЕРЫ ПАЛТАРАН

Радзіма твая на Палессі.
Адтуль ты для ўсіх прыняслa
Сваю непаўторную песню,
Дзе многа святла і цяпла.

Знайшліся ключы ад Сезама,
Ад сэрцаў спагадных ключы...
Шкада, ты сягоння не з намі,
Шкада, не змаглі зберагчы

Цябе, тваю песню, твой голас,
Што рэхам аціх у бары.
Палессю тваіму невясёла
На ранняй і позняй зары.

Сказаць яшчэ мела ты многа,
Ды вось не спадобіла сіл...
Закончана раптам дарога.
Красуе, адно, дзівасіл.

### НАШ КРЫЖОВЫ ШЛЯХ

Дзесяткі год не знаў таго,
Што знаю я сягоння.
Нялёгка мне звяргаць багоў
З вышыняў у бяздонне.

Як быццам клятве здрадзіў ты,
Пакінуў поле бою.
Нібы не знаў дарог крутых,
Тугі, бяды людское.

Знаў і тугу, знаў і бяду,
Крутыя перавалы.
Я сёння кожнага знайду,
Хто рваўся ў запявалы.

Хто нашу долю, шчасце рваў,
Я сёння добра знаю.
Хоць іх дарадчыкам не стаў,
Віны свае шукаю.

Заўжды я йшоў насупярок
Зазнайкам, дэмагогам.
Яны мне свой давалі ўрок,
Каб збіць мяне з дарогі.

А я па ёй з дзіцячых год
Упарта йду, няспынна.
Не папракне мяне народ,
Не папракне краіна.

Я верыў тым, што нас вялі
І многа абяцалі.
Я сілы ўсе аддаў зямлі,
Дзе ўсе мы выраслі.

Але не вырас ураджай,
Якога мы чакалі...
Чаму збяднеў наш родны край? —
Удзень нас абакралі.

Няма тых, славілі каго
І песняй, і плакатам.
За іх ішлі мы у агонь,
А многія з іх — каты.

З іх многіх у сцяне Крамля
Ўрачыста пахавалі.
І тужыць родная зямля,
Што іх мы праслаўлялі.

Імёны іх, іх чорны след
Народам скрозь пракляты.
І верш хутчэй спалі, паэт,
Ў якім праславіў ката.

Сягоння скрозь і боль, і сум,
Дзе трацілі мы сілы.
І вострыць смерць сваю касу,
І новыя магілы

Растуць, палітыя слязой
Пякучага свежач ранай...
За што ж ішлі на грозны бой
Вайны той ветэраны?!

Усім, хто паў, няма бяды.
Усім жывым — нялёгка.
На што патрацілі гады
І шлях прайшлі далёкі?

Чаму будзілі столькі год,
Ішлі не той дарогай,
Чаму падмануты народ
Згарае ад знямогі?

Ужо не слухае прамоў,
Дзе абяцаюць горы.
І я да шчасця доўга йшоў,
Сустрэў жа толькі гора.

Не варта, можа, і пісаць
Пра ўсё, што сёння маем?
Але ў маўчанні пагасаць —
Такое не прымаю.

І сёння буду гаварыць
Пра ўсё, што сэрца точыць,
Да той світальнае зары,
Што згоніць морак ночы.



Проза

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# У ГАСЦЯХ



АПАВЯДАННЕ

Ужо трэці год запар, звычайна пад канец мая, калі ў Мінску ставала гарачыня, і душа і цела звыкла пачыналі бунтаваць ("а час ляціць, яшчэ адзін дзень прападае без следу, а людзі на курортах, на дачах, на прыродзе, а я... і г. д."), адзін малады чалавек, па прозвішчы, скажам, Азіевіч, кідаў усё і хоць на пару дзянькоў вырываўся на Палессе, да былога сябра-аднакурсніка, які працаваў там настаўнікам у вёсцы. Паблізу вёскі было вялікае рыбнае возера.

У першы свой прыезд Азіевіч, як і сябар цяпер, быў звычайным настаўнікам, у другі — журналістам, а ў гэты, трэці — "камерсантам" (ён памагаў скупляць і перапрадаваць розныя тавары, зробленыя іншымі людзьмі). А сябар кожны раз аставаўся адным і тым жа, са сваімі маленькімі клопатамі. І гэта прыемна было ведаць, бачыць — што ты расцеш, а некаму Бог не даў, так і гібее.

Азіевічу падабалася гэтая вёсачка, уся ў садах, ваколіцы, падабалася наязджаць вось так, знянацку, падабалася, што сябар з жонкаю бегаюць вакол яго, не ведаючы дзе пасадзіць і чым дагадзіць, падабалася, калі асталіся адны, жартам заляцацца да непрыгожай сябравай жонкі Лены, якая, хоць і вучылася некалі разам з Азіевічам у інстытуце ў адной групе, цяпер чамусьці пачала зваць яго на "вы" і не скідала яго рукі са свайго пляча, баючыся пакрыўдзіць.

І ў гэты прыезд усё паўтаралася.

Як толькі Азіевіч выйшаў з "Ікаруса" і ўбачыў знаёмыя хаткі у квецені сіняга і белага бэзу, як толькі ўдыхнуў у сябе пах веснавой нагрэтай зямлі, маладой травы, пачуў, як шчабеча нейкая птушка, як конь паўз плот каля агарода, пазвоньваючы цуглямі, скубе траву... так адразу стала лёгка і здорава! І яму, чалавеку гарадскому, захацелася хутчэй забыцца, скінуць з ног чаравікі, сцягнуць змакрэлыя ў душным аўтобусе шкарпэткі і прайсці басанож, пасядзець, паляжаць на траве, хоць на міг адчуць сябе звычайным вясковым дзядзькам, як вунь той, што сядзіць пад плотам і курыць...

Была якраз субота, выхадны, і настаўнік з жонкаю аказаліся дома. Як і заўсёды, яны ўзрадаваліся нечаканаму госцю, кінуліся збіраць на стол, і Азіевіч, седзячы на канапе ў прахалоднай верандзе, чуў, як яны там у хаце радзяцца, што пярвей падаваць. Настаўнік гучным, сярдзітым шэптам выгаворваў жонцы, каб зараз жа прыбрала са стала "гэтыя яйкі!", а паставіла "першае", потым паляндвічку, хрэн і не забылася на бярозавы квас — запіваць гарэлку.

Азіевіч адпачываў і лена думаў, што і на гэты раз у яго знаёмцаў перамен асаблівых няма, як жылі, так і жывуць. Адно хіба — настаўнік чамусьці адгадаваў бародку і стаў падобны на маладога рэвалюцыянера-марксіста, а яго непрыгожая Лена хадзіла цяжарная і ўжо неяк няёмка было жартаўліва да яе заляцацца. Урэшце яго запрасілі ў хату, прычым настаўнік з жонкаю селі толькі тады, як Азіевіч сеў. Гаворкі дужа не вялі, падзакусілі добра — госць асабліва пахваліў боршч з маладога шчаўя, з грыбамі і забелены лыжкай смятаны. Потым зморанага з дарогі, разамлелага ад дзвюх добрых чарак самагонкі Азіевіча настаўнік правёў у кутні чысты пакойчык, прычыніў акно — каб камарэчы не наляцела, і госць улёгся ў мяккі ложак на свежыя, скрыпучыя ад крухмалу прасціны.

Спаў ён моцна, без сноў, і доўга, аж да вечара, але прачнуўся раптоўна — здалося, на яго нехта глядзіць. Так і ёсць: малюсенькая беленькая дзяўчынка, як лялька, дачка гаспадароў, стаіць у дзвярах, прыціснулася да вушака і пазірае сінімі вочкамі... Азіевіч хацеў паманіць яе, пагладзіць па галаве і сказаць штосьці ласкавае, але не змог успомніць, як яе завуць. Ён працягнуў руку, дзяўчынка спалохана крутнулася і ўцякла. "Пажыву тут з тыдзень, — падумаў Азіевіч, — адпачну па-людску... Хай лясне цца той горад..."

Паўз дзверы, якія дзяўчынка пакінула расчыненымі, ціха прадыбаў настаўнік. Ён быў ужо ў рыбацкім адзенні. Азіевічу згадалася тое возера, камарыны звон, пранізлівае цёхканне праклятых салаўёў, ад якіх аж вушы закладала, гразь, пот, ды і ганялі там, возера было рыбхознае, наат курыць даводзілася ў рукаў, не кажучы, каб раскласці вогнішча ды зварыць юшкі... "Паспею яшчэ і на возера!.."

Ён пазваў настаўніка і аб'явіў, што нешта не хочацца сёння нікуды ісці.

— А не хочацца, дык і не пойдзем, — адразу згадзіўся настаўнік і пайшоў пераапранацца.

Пад вечар зноў селі за сабраны панаваму стол у меншай хаце. Настаўнік наліў сабе і госцю гарэлкі, жонцы і беленькай дачцэ-лялцы — кампоту ў чаркі. Азіевіч агледзеў стол і пацёр рукі.

— За што я вас люблю, дык гэта за закусь! — сказаў ён, кладучы на хлеб дольку ружовай паляндвіцы і прынюхваючыся. — Я такую толькі адзін раз еў, у Мінску, у рэстаране "Сосны"... А зрэшты, і гарэлка неблагая ў вас!

Лена заірдзелася. Азіевіч падняў руку з чаркаю і ўжо раскрыў губы, рыхтуючыся ўліць у рот пахвалены прадукт, як раптам настаўнік зрабіў усім знак замерці:

— Ціха! — і прыслухаўся.

Азіевіч, якому было бліжэй, расхінуў фіранкі. Усе пaглядзелі ў акно, у прыцемкі. Здалёк аднекуль данёсся грукат цягніка.

— "Кішынёў — Адэса", — прамовіў настаўнік і выпіў.

— "Адэса"! — перадражніла жонка, крутнуўшы каля скроні пальцам.

— Слухай, трэці раз прыязджаю і трэці раз зразумець не магу — нашто табе гэта? — спытаў Азіевіч, хрумстаючы пярынай зялёнай цыбулькі. — Ну, нашто ты цягнікі гэтыя ўгадваеш?

— Ён і сам не ведае.

— Так... — адказаў настаўнік. — Падумаеш, людзі жывуць, ездзяць сабе некуды, а ты сядзіш, як пень... Трыццаць гадоў, а на моры ніколі не быў, толькі па тэлевізары бачыў.

— Хто ж табе вінаваты? — уставіла Лена са звыклым дакорам. — З'ездзі на мора.

— Дай грошы, з'езджу, — у тон ёй, гэтак жа звыкла абазваўся настаўнік.

— Зарабі, тады дам...

Пілі, вядома, за госця, за тое, што праведвае, не забываецца. Як толькі Азіевіч адкрываў рот, настаўнік з жонкаю адразу змаўкалі. Госць балбатаў што хацеў і колькі хацеў. Калі ж яго язык стамляўся, ці рот быў заняты паляндвіцаю, тады і настаўнік спрабаваў выгаварыцца. Гаварыў ён глуха, манатонна, у асноўным скардзіўся, як надакучыла ўсё, як хацелася б з'ехаць куды вочы глядзяць — да самага мора, але нельга, дзеці, сям'я...

— Тут у Жыткавічы няма за што выбрацца, а ён — ехаць! — устаўляла тады Лена. — Не з тваімі грашыма.

Настаўнік яе ігнараваў, а Азіевічу далей расказваў, што вось-вось пойдзе на пенсію нейкі Пятровіч, і тады нічога не астанецца, як нейкаму Васільевічу — "дырэктарам", а яму, настаўніку, — "завучам".

— Ну і што твой завуч? — казала жонка. — Работы больш, а грошы такія ж самыя.

— Такія ды не такія...

Азіевічу ўсе гэтыя праблемы былі далёкія і нецікавыя. Ён, пражаваўшы, аслабаніўшы рот, умешваўся, перабіваў, смела даваў размове той кірунак, які хацеў. Настаўнік з жонкаю пакорліва пачыналі слухаць.

— ...Ну, тады я — наце! — кідаю на стол "баксы"! Не помню ўжо, колькі. Ну, яны там забегалі... Ха! Слова такога не чулі, а сабраліся "раскручваць"!

— А што за такое слова? — спытала Лена. — І я не ведаю.

— Долар, цемната! — засмяяўся настаўнік.

— Долар, марка, фунт... Ну, слухайце: карацей, я бац, раскручваю іх на сорак сем "баксаў", закаціліся ў "Сосны", прыязджаем, значыць, у "Сосны"...

Сядзелі доўга. Лена ўжо адвяла дачку спаць і цяпер сядзела за сталом толькі з ветлівасці перад госцем — сама ўжо клявала носам. Мужчыны пілі многа, але ад добрай закускі п'янелі слаба. Пакурыць выходзілі на двор. Над галовамі роем, бы здурнелыя, не баючыся цыгарэтнага дыму, таўкліся-звінелі камары. Зусім блізка, у бэзавым кусце, спяваў салавей.

Вярталіся ў хату.

— ...Там, у "Соснах", як заходзіш, вось тут, дзе ў вас печ, там бар, тут, дзе ў вас стол — там такія стойкі...

Настаўнік раптам падняў палец, зноў патрабуючы цішыні.

— "Кіеў — Рыга", — прамармытаў ён і сабраўся далей слухаць Азіевіча.

— "Рыга", "Рыга"!.. — перадражніла жонка. — Людзі жывуць, у рэстараны ходзяць... А ён паязды лічыць! Паслухай лепш чалавека!..

— ...Значыць, такія стойкі. Дастаю я "баксы", ну, спачатку, вядома, даўгі раздаў...

Усё ж гарэлка і час бралі сваё. Калі выйшлі пакурыць чарговы раз, Азіевіч ледзь не зваліўся з ганка, настаўнік паспеў падтрымаць. Вярнуліся — Лены ўжо не было, пайшла спаць.

— А-а!.. — пазяхаў і гнаў даланёю ў рот паветра настаўнік.

Але Азіевіч выспаўся днём і яшчэ хацеў гаварыць. Настаўнік, відаць, разважыўшы, што адцягнуць госця ад стала і тым скончыць яго росказні можна толькі адным спосабам, менавіта — напаіць так, каб у яго язык не варочаўся, — паказаў на пустыя чарачкі:

— Яшчэ па "сотцы"? Тады схаджу ў камору, — і, прыхапіўшы пусты літровы слоік, выйшаў з хаты.

Азіевіч, астаўшыся адзін, паспрабаваў успомніць канец гісторыі, якую расказваў цэлы вечар — пра "Сосны" і "баксы", — але не змог. У галаве звінела, камары былі і тут, у хаце. Пачуўся гудок далёкага цягніка. "Кіеў — Рыга", — успомніў Азіевіч і падумаў пра настаўніка: — Дурань!" Недзе за сцяною сонна закашлялася дзяўчынка. Азіевічу раптам дзіўна стала, што вось ён тут, чортведама дзе, сярэдначы, у чужой хаце, сядзіць корміць камароў — замест таго, каб спакойна спаць сабе ў Мінску ці гуляць у тым жа рэстаране "Сосны". Дзіўна было глядзець на сваю руку, на чаравікі, на аб'едкі на стале. Яшчэ больш дзіўна думаць, што чалавек, які пайшоў па гарэлку, прыжыўся тут, вучыць дзяцей у школе, а тыя, відаць, пазіраюць на яго так, як некалі ён, Азіевіч, сам пазіраў на настаўнікаў і думаў, што яны ніколі не лаюцца матамі... Дзіўна! І вось ён, Азіевіч, успомніў пра гэтага чалавека, прыехаў — і чалавек не спіць паўночы, пайшоў вось яму, Азіевічу, па гарэлку... А захацеў бы Азіевіч — і настаўнік спаў бы цяпер. Як Лена спіць. Ці яшчэ не спіць? Яна пахарашэла цяжарная... Ці яму здалося?

Зусім не разумеючы, што і навошта ён робіць, Азіевіч падняўся і, калываючыся на зацеклых, непаслухмяных нагах, пайшоў у пакоі. Вось баковачка, дзе ён спаў, вось яшчэ дзверы, прачыненыя. Ён зазірнуў і, дзякуючы сваім добрым вачам, разгледзеў у цемры нешта белае каля сцяны. Ён, выцягнуўшы ўперад руку, ступіў крок, яшчэ, і натыкнуўся на біла ложка, апусціў руку і намацаў жаночую галаву, плячо, пагладзіў па ім, потым павёў руку далей, пад коўдру. Жаночае цела пад яго рукою здрыганулася.

— Што... Што? — спрасонку замармытала Лена і знянацку ўскінулася: — Што?!

У той жа час загарэлася святло, і дзяўчынка, якая спала з маці, спалоханая святлом і матчыным воклічам, сама закрычала, затым, убачыўшы над сабою чужога дзядзьку, аж зайшлася ў плачы і пашылася пад коўдру... Дужыя рукі схапілі Азіевіча за плечы, павярнулі і паперлі перад сабой, штурхаючы, на кухню — так, што Азіевічу давялося ісці подбегам. На кухні рукі адпусцілі яго. Азіевіч сеў на свой табурэт і — невядома чаму — найперш глянуў на стол, ці прынесена гарэлка, а толькі потым — на настаўніка.

Той стаяў пасярод хаты са сціснутымі кулакамі, ніжняя губа разам з бародкаю трэслася, зусім цвярозыя вочы глядзелі на Азіевіча з нейкім страхам, нават жахам — быццам Азіевіч вось зараз забіў кагосьці, прызнаўся настаўніку, і цяпер настаўнік баіцца, што і яго могуць забіць.

— Божа мой! — вымучыў з сябе ўрэшце ён, прыціскаючы кулакі да грудзей. — Ты... свіння! Проста свіння!

Азіевіч, збянтэжаны, збіты з панталыку, маўчаў.

— Якая ж ты, аказваецца, свіння!

— Ды хопіць табе... — нясмела папрасіў Азіевіч.

— Хопіць?! Памаўчаць?! Вось зараз зноў сядаць з табою за адзін стол і піць гарэлку?! Ды ты... мала таго, што свіння — ты яшчэ і нахабная свіння! Божа мой... А мы да яго, як да радні, усёй душою, усім сэрцам... Вось гэтым вось дурным! (Настаўнік пастукаў сябе кулаком у грудзі.) Бегаем, не знаем, дзе пасадзіць... Слухаем! Слухаем гэтую гадкую балбатню, беліберду гэтую пра рэстараны і "баксы"! Каму гэта трэба?! Нашто ты пры Лене гэта ляпаеш?! Нашто ты паказваеш пры ёй, што я — жабрак? Начорта мне трэба слухаць пра твае "баксы", калі я ў руках іх не трымаў, не бачыў ніколі?!

— Лена ў дэкрэце, я капеечка да капеечкі... Ты ведаеш, што я ўжо год не тое што сабе ці жонцы — малой не магу купіць ніводнай абноўкі? Усё на ежу, на якую муку, цукар, камбікорм... І наце — заяўляецца ён! На гэта вось, на ўсё гатовае! Ты ведаеш, якую ты гарэлку папіў? Тую, што я хаваў людзям, каб соткі абагналі, дроў прывезлі! Паляндвіцу хаваў, грыбы — малой шкадавалі, а для яго выставілі — пі, еш, толькі будзь чалавекам! Не, вось ужо праўда: пусцілі за стол, а ён і ногі на стол... Хвалішся сваімі рэстаранамі, "баксамі", а прывёз хоць раз, як чалавек, цукерку малой? Лене апельсіна якога? У госці ж са сваёй пляшкай ідуць, а ты з чым прыязджаеш трэці раз? З пустымі рукамі! Але хай — пі, еш, рыбалку хочаш — на на рыбалку... Не — дай яшчэ жонку! Свіння, проста свіння і больш нічога!

Ашаломлены Азіевіч мала што разумеў. Слухаючы настаўніка, ён чамусьці не цверазеў, а яшчэ больш п'янеў.

— Свіння! — усё паўтараў настаўнік, ходзячы ўзад-уперад.

— А што такое? — вырашыў урэшце павысіць голас, абурыцца і Азіевіч. — Заладзіў... Ад такога ж чую!

— Вось што, вымятайся адсюль зараз жа! — настаўнік схапіў яго за каршэнь, працягнуў праз хату, веранду і саштурхнуў з ганка ў цемру.

Азіевіч па інерцыі пабег уперад, выцяўся рукою аб плоцік агарода і ўпаў. Прыпадняўся на карачкі, агледзеў руку

(Працяг на стар. 12)

# ЯГО СЛУХАЛА КАРАЛЕВА!



**Андрэя Кавалінскага, нашага міжнароднага лаўрэата, вучня Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі (клас выдатнага педагога-трубача М. Волкава), чытачам "ЛіМа" прадстаўляць не трэба. Імя вядомае. Дый за мяжой ён іграў ужо неаднойчы: у Грэцыі, Германіі, Італіі, Расіі... З 9 па 17 снежня ў складзе каманды фонду "Новыя імёны" Андрэй пабываў у Іспаніі. Адбылося 6 канцэртаў, адзін — у Мадрыдзе. Са славутым аркестрам У. Співакова "Віртуозы Масквы" ды ў партнёрстве з піяністам Аляксандрам Кобрыным беларускі трубач іграў Канцэрт Д. Шастаковіча. Прысутнічала каралева Іспаніі з прынцэсай, у перапынку для музыкантаў быў наладжаны сапраўдны каралеўскі прыём. Для сваіх сольных выступленняў (іх было 5) А. Кавалінскі абраў Эцюд А. Скрабіна ды "Ave Maria" Баха—Гуно. Канцэрты праходзілі з аншлагам. У мадрыдскай зале юных артыстаў слухалі дзве з паловаю тысячы чалавек. Дарэчы, гэтая зала пабудаваная паводле новай тэхналогіі: ідэальная акустыка ў ёй дасягаецца з дапамогаю электронікі, якая літаральна "падладжвае", рэгулюе рухомыя архітэктурныя элементы памяшкання ў залежнасці ад складу выканаўцаў. Такім чынам "залаты" голас трубача А. Кавалінскага ідэальна гучаў ва ўсіх пунктах суперсучаснага канцэртнага збудавання.**

**М. ІЛЬТО**

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# УРОКІ ВЯДОМАГА МАЙСТРА

**Не так даўно у Беларускую акадэмію музыкі быў запрошаны для правядзення майстар-класа прафесар кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужаны артыст Грузіі Важа Чачава. Сустрэча беларускіх музыкантаў з адным з вядучых сучасных канцэртмайстраў сталася святам музыкі. Перапоўненая зала была красамоўным адказам на пытанне, ці патрэбна сёння высокае мастацтва.**

**В. Чачава — надзвычай цікавая творчая асоба, шырока эрудзіраваны, адукаваны музыкант, які мае глыбокія веды не толькі ў музыцы, але і ў паэзіі, літаратуры, жывапісе, тэатры. Акцёрскае майстэрства Чачавы (ён закончыў акцёрскі факультэт) цікава пераламілася ў яго выканальніцтве. Трактуючы музыку, ён карыстаецца сістэмай К. Станіслаўскага, аперыруючы такімі паняццямі, як "зерне вобраза", "падтэкст", "другі план", "звышзадача". Чачаву зусім слушна можна назваць акампаніятарам-мастаком. У яго інтэрпрэтацыі "музычны свет" Чайкоўскага, Рахманінава, Шуберта, Шумана вельмі пазнавальны і ў той жа час непаўторны. Слухачы былі захоплены яркай вобразнасцю яго мыслення, неардынарнасцю трактоўкі, выкарыстаннем музычных "сімвалаў".**

**Ён адчувае музыку як жывы арганізм, вучыць разумець ролю кожнай з партый у стварэнні цэласнага мастацкага вобраза — як сінтэзу духоўнага і фізічнага быцця чалавека ў навакольным свеце. Ён заклікае да свежасці пачуцця, натуральнасці ўспрымання і інтанавання музыкі, адначасова разумеючы, што толькі пільнае вывучэнне тэксту твора ва ўсіх яго ўзаемасувязях можа даць выканаўцам творчую свабоду. "Тут усё напісана", — гаворыць В. Чачава. І дадае: "Ноты, знакі — яшчэ не музыка... Вярнуць твор да жыцця — гэта і азначае быць дакладным".**

**Калі слухаеш, як ажываюць гукі пад пальцамі гэтага дзівоснага музыканта, міжволі думаеш — гонар і слава Майстру, які здолеў рэалізаваць Богам дадзены талент і ў бязмежным мастацтве дасягнуць такіх значных вышынь.**

**Серафіма БЯЛЬКЕВІЧ,**
**прафесар кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Беларускай акадэміі музыкі**

Музыка

# ТУТ КОЖНЫ ВЫЯЎЛЯЕ СЯБЕ...

***Як паведамлялася, у Мінску прайшоў конкурс выканаўцаў на драўляных духавых інструментах. Арганізатары гучна назвалі яго "Першым міжнародным".***

Сапраўды, задумваўся ён маштабна: запрашэнні былі разасланыя ў Англію, Францыю, Германію, Славенію. Але ўзялі ўдзел у конкурсе прадстаўнікі толькі чатырох культур: украінскай, расійскай, польскай і беларускай, прычым большасць музыкантаў абараняла гонар нашай дзяржавы. Аднак, нягледзячы на невялікую колькасць краін-удзельніц, і журы, і самі выканаўцы адзначылі прафесіяналізм і перспектыўнасць конкурсу. Вось меркаванне члена журы У. АПАЦКАГА, доктара мастацтвазнаўства, прафесара Кіеўскай кансерваторыі:

— Колькасць удзельнікаў — невялікая для міжнароднага конкурсу, затое ўзровень вельмі высокі. Звычайна ў аналагічных конкурсах сустракаюцца "выпадковыя людзі", якія відавочна не адпавядаюць узроўню. Тут гэтага не было. Усялякае "спаборніцтва" не адразу заваёўвае месца ў сусветнай іерархіі конкурсаў, таму неабходна ўвесці такія "фестывалі талентаў" (і не толькі сярод духавікоў) у традыцыю, тым больш, што сёлетні конкурс выявіў свой вялікі патэнцыял: мы пачулі нямала выдатных музыкантаў, у якіх несумненна добрая будучыня. Прафесіяналізм удзельнікаў і традыцыйнасць правядзення паступова вылучаць конкурс, павысяць яго прэстыж і ўплывовасць.

Аднак цяжка загадваць наперад, бо пры падрыхтоўцы мерапрыемстваў такога размаху заўсёды ўзнікае шэраг складаных арганізацыйна-фінансавых праблем, асабліва вострых у нашых эканамічных умовах. Прынамсі, "Першы міжнародны" ў значнай меры абавязаны сваім фундатарам: Беларускаму фонду дапамогі развіццю культуры, Беларускаму рэспубліканскаму саюзу "Садружнасць", фірмам "Эльдарада" і "Аўгур". Генеральны спонсар — акцыянерны камерцыйны банк "Беларусь" стварыў прэміяльны валютны фонд (лаўрэаты І-ай прэміі, напрыклад, атрымалі па 1500 долараў ЗША). Пры дапамозе "Беларусбанка" Інстытут праблем культуры набыў для студэнтаў Акадэміі музыкі інструменты вытворчасці лепшых французскіх фірм Selmer (флейта) і Buffet Crampon (пара кларнетаў, габой).

Ініцыятарамі і сапраўднымі творцамі конкурсу сталі Беларускі інстытут праблем культуры (асаблівая заслуга належыць ягонаму рэктару У. Скараходаву), Міністэрства культуры і друку РБ, Беларуская акадэмія музыкі і Беларуская дзяржаўная філармонія. Сур'ёзнасць і прафесіяналізм з боку "аўтараў" конкурсу выявіліся ва ўсім, што датычыць арганізацыі: у запрашэнні аўтарытэтнага журы (у склад яго ўвайшлі буйныя спецыялісты з краін-удзельніц), у аператыўнасці і якасці стварэння ўмоў пражывання і падрыхтоўкі для прыезджых канкурсантаў, у афармленні буклетаў.

Конкурс выклікаў вялікую цікавасць сярод музыкантаў розных спецыяльнасцей, і не толькі мінчан. А канкурсантаў парадавала добразычлівая і сардэчная публіка.

"Ветлівасць і цеплыня слухачоў пры такой маральнай і псіхалагічнай напружанасці заўсёды падтрымліваюць", — заўважыў лаўрэат І прэміі кларнетыст Аляксей Вакуленка. Дарэчы, ён ужо ўдзельнічаў у конкурсах: міжрэспубліканскім (ІІ месца) і ўсесаюзным (ІІІ), а таксама паспяхова вытрымаў "экзамен" — праслухоўванне ў вядомы Амерыканскі аркестр моладзі. Аляксей вельмі ўдзячны свайму настаўніку У. Скараходаву (які не толькі ўзначальвае інстытут, але і выкладае ў Акадэміі музыкі) за тое, што ён вытрымаў разам з выхаванцам гэты конкурсны марафон.

Пасля ІІ тура, калі кола ўдзельнікаў ашаламляльна абмежавалася, А. Вакуленку, як ён прызнаўся, і дапамагла падтрымка залы. Не падвёў і прыродны артыстызм, амаль што генетычны: Аляксей ужо трэці кларнетыст у сям'і, пасля бацькі і старэйшага брата. Паказальна, што ўся дынастыя працуе ў аркестры ДАВТа, з якім часткова звязаны бліжэйшыя намеры Аляксея. Ён мяркуе цалкам асвоіць оперны рэпертуар, адначасова працягваючы канцэртную дзейнасць, беручы ўдзел у іншых "турнірах". Ён не ўяўляе сябе ў адрыве ад беларускай музыкі і шкадуе аб ад'ездзе многіх выканаўцаў за мяжу.

Выкананне А. Вакуленкі вызначаецца мастацкім густам, тонкай градацыяй гуку, лёгкасцю і свабодай валодання інструментам. Невыпадкова ўсе члены журы аднадушна назвалі яго бясспрэчным лідэрам конкурсу, кларнетыстам еўрапейскага класа, а прафесар Катавіцкай акадэміі музыкі А. Яніцкі адзначыў Аляксея спецыяльным прызам як найлепшага беларускага кларнетыста.

Другім сярод кларнетыстаў журы назвала польскага музыканта Рамана Лічнерскага. Паслухаўшы ў ягоным выкананні Канцэрт В. А. Моцарта, прафесар У. Апацкі заўважыў:

— У выкананні Лічнерскага шчасліва спалучаюцца пачуццё і розум, без чаго немагчыма звацца музыкантам. Роўны, пявучы гук, тэхнічнасць, стрыманая выканальніцкая манера, — усё як нельга лепей суадносіцца са стылем Моцарта.

Сам Раман адзначыў на конкурсе, што беларускім музыкантам уласціва іншае, у параўнанні з польскімі, разуменне гуку і, як вынік, — іншая эстэтыка ігры. У польскай музычнай школе гук больш цёплы, матавы, а ў беларускай — ясны, адкрыты. Польскія музыканты імкнуцца як мага дакладней ісці за аўтарскім тэкстам; беларускія ж выканаўцы дапускаюць больш уласных адносін у трактоўцы музычных твораў.

Выхаванец прафесара Г. Керскага, Раман ужо неаднаразова станавіўся лаўрэатам конкурсаў духавікоў у Польшчы; музыканта заўважыла фірма "Yamaha" і адзначыла сваёй стыпендыяй. Ён браў урокі ў парыжскіх педагогаў Гі Дэплю, Мішэля Арыньёна ды амерыканскага прафесара Джона Русо. Беларускай публіцы надоўга запомніцца высокі элегантны Р. Лічнерскі, які павёз на радзіму прыз Беларускай акадэміі музыкі "За артыстызм".

Наш зямляк Вадзім Іваноў (БАМ, клас дацэнта І. Брычыкава) атрымаў ІІІ прэмію сярод кларнетыстаў. Пачынаў ён як піяніст у Рэспубліканскім музычным ліцэі, аднак у 5 класе перайшоў на кларнет і ўжо ў 1990 г. стаў лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу навучэнцаў ССНУ. Конкурсы Вадзім лічыць вялікай школай:

— Гэта перыяд, калі чалавек за кароткі тэрмін можа значна вырасці, успрыняць мноства новай інфармацыі, пазнаёміцца з рознымі інтэрпрэтацыямі. Пасля выступленняў "падымаеш планку" — авалодвае прага працаваць, самаўдасканальвацца. Пра такую мабілізацыю і творчае гарэнне марыць кожны выканаўца.

Сярод габаістаў першае месца заняла Вікторыя Татур, якую прафесар У. Будкевіч назваў самым яркім і цікавым інструмента-

Тэатр

# І ПЛЁН НЕ МАЕ ЦАНЫ

## "СТРАХІ ЖЫЦЦЯ. ЦЕНІ" Ф. АЛЯХНОВІЧА Ў МУНІЦЫПАЛЬНЫМ ТЭАТРЫ "ДЗЕ-Я?"

"Мара здзяйсняецца..." Вось пад такім нетрадыцыйным "грыфам" з'явілася афіша Муніцыпальнага тэатра драмы "Дзе-Я?", прымеркаваная да адкрыцця новага сезона. Яна паведамляла, што "Дзе-Я?" распачынае свой першы тэатральны сезон на ўласнай сцэнічнай пляцоўцы. Доўгачаканая падзея! Тэатр атрымаў асобную глядзельную залу ў кінатэатры "Радзіма". У хуткім часе, як абяцаюць гарадскія ўлады, ягонаю ўласнасцю стане ўвесь будынак.

Але не толькі пра арганізацыйна-вытворчыя перспектывы сведчыць згаданая афіша. На ёй пазначаны і творчыя здзяйсненні — перадусім спектаклі, створаныя паводле твораў Францішка Аляхновіча. "Дзе-Я?" вяртае сучасніку адметную драматургічную спадчыну, арыгінальна прадстаўляючы яе на самых полюсах. На адным — п'еса-жарт "Чорт і Баба", на другім — сімволіка-містычныя драмы "Страхі жыцця" і "Цені".

Пачатак знамянальнага сезона адзначаецца неаднаразовым паказам спектакля "Страхі жыцця. Цені". Тым самым як быццам падкрэсліваецца прынцыповае значэнне гэтай работы ў рэпертуары тэатра. І сапраўды, мастацкія пошукі, якія абумоўліваюць вобразную змястоўнасць пастаноўкі, пэўна характарызуюць агульную атмасферу жыццядзейнасці трупы пад кіраўніцтвам Мікалая Трухана.



*Трупа тэатра*

Драматургія Ф. Аляхновіча вылучаецца разнастайнасцю ў падыходзе да вобразнага асэнсавання супярэчнасцей свету і прыроды чалавека. Своеасаблівасць аўтарскага светаўспрымання яскрава праяўляецца ў творах самых розных жанраў і стыляў. Сярод іх прыкметнае месца займаюць п'есы "Страхі жыцця" і "Цені". Па сюжэтнай пабудове, па характары дзеяння і спосабе ўзаемадачыненняў персанажаў яны блізка стаяць да так званай новай драмы, што ўзнікла на рубяжы XIX—XX стст.; яе пачынальнікамі выступілі Метэрлінк, Чэхаў, Ібсен.

У п'есах "Страхі жыцця" і "Цені" знаходзіць адлюстраванне сама гістарычная сітуацыя — паводле аўтара, "жудасныя часіны 1915—1918 гг.". Аб'ектам мастацкага даследавання выступае трагізм паўсядзённага чалавечага існавання. Ён раскрываецца праз агаленыя пачуцці, разарваную свядомасць герояў, якія змушаны змагацца сам-насам са сваёй адзінотай, пераадольваць страх перад навакольным светам і цярпець у выніку сакрушальнае паражэнне.

Катастрафічную карціну распаду і гібелі сям'і малюе Ф. Аляхновіч у драме "Страхі жыцця". Зацятая барацьба герояў за элементарнае — кавалак хлеба, каб не памерці з голаду, — абарочваецца вынішчальнымі наступствамі канца свету. Ні менш, ні больш. У такім катэгарычным супастаўленні аўтар не



*Фагатыст Алег ДАННІК (другая прэмія).*



*Флейтыст Сяргей КАРТЭС (другая прэмія).*



*Дыпламант конкурсу канцэртмайстар Ксенія КУЗЬМЕНКА і лаўрэат трэцяй прэміі габаіст Алег АЛЯСЮК — прыз "За віртуознасць".*

лістам на конкурсе — за дзівосны гук і тонкае пранікненне ў задуму кожнага твора. Улюбёны кампазітар Вікторыі — Моцарт, таму з усіх трох тураў конкурсу яна асабліва вылучыла заключны, "моцартаўскі" (канцэрт C-dur для габоя з аркестрам). У Моцарце прыцягваюць яснасць, сабранасць, дынамізм — не толькі формы ў цэлым, але й ці не кожнага асобнага гуку. Ужо сама педагог, яна з глыбокай павагай і ўдзячнасцю расказвае пра свайго настаўніка, поруч з якім прайшла не адно выпрабаванне: у ліцэі, кансерваторыі і асістэнтуры Вікторыя займалася пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі прафесара Б. Нічкова.

На конкурсе выйшла так, што ўсе тры прызавыя месцы занялі вучні Б. Нічкова. Члены журы добразычліва гаварылі пра гэтых маладых музыкантаў, а У. Апацкі назваў бліскучую тэхніку выхаванцаў Барыса Уладзіміравіча "амаль паганініеўскай паводле ўзроўню". Дарэчы, сярод іх — лаўрэат III прэміі Алег Алясюк, які атрымаў прыз "За віртуознасць". На заключным канцэрце слухачы пачулі, з якой лёгкасцю і гнуткасцю правёў гэты габаіст найскладаныя пасажы ў Фантазіі А. Паскулі на тэмы Г. Даніцэці. Аднак не толькі тэхніка характарызуе творчую манеру Алексюка: ашчадліва ўзяты мяккі гук, пластычнасць, чысціня ігры "выдаюць" сталага і ўдумлівага музыканта.

Яшчэ адзін адметны інструменталіст — цяперашні студэнт Б. Нічкова Дзмітрый Кавалёў (II прэмія). Скончыў музычнае вучылішча ў Харкаве, заняў I месца на Усеўкраінскім рэспубліканскім конкурсе. А працягнуць вучобу вырашыў у класе вядомага педагога, чыё імя — аўтарытэт далёка за межамі Беларусі. Паралельна з вучобай Кавалёў працуе артыстам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Таму, паводле слоў самога Дзмітрыя, яму адносна лёгка было рыхтавацца да апошняга тура, бо ў фінале музыканту дапамагаў камерны склад гэтага аркестра на чале з дырыжорам В. Сарокам.

Акампанаваў аркестр салістам з энтузіязмам і натхненнем. Як ажывіліся і адначасова падцягнуліся музыканты, калі вядучая на III туры аб'явіла імя кіяўляніна Аляксея Ткачука (фагот, I прэмія)! У канцэрце Моцарта, які граў Ткачук, былі і дынамізм, пругкасць, і — пяшчота, мяккасць. Глыбокія аксамітныя басы плаўна перацякалі адно ў адно. Аляксей натхнёна правёў кадэнцыю I часткі, загіпнатызаваўшы і залу, і артыстаў на сцэне. Акрамя Моцарта, Аляксей любіць іграць французскую музыку з раялем (К. Сен-Санс, Базза), а слухаць Р. Штрауса ды Г. Малера. Сваю перамогу ён тлумачыць заслугай прафесара У. Апацкага, вучоба ў якога — і сапраўдная праца, і школа самастойнага мыслення.

Лаўрэатамі II і III прэмій сярод фагатыстаў сталі выхаванцы прафесара БАМ У. Будкевіча Алег Даннік ды Аляксей Фралоў.

Алег скончыў кансерваторыю і выступае ў складзе Ансамбля салістаў "Класік-Авангард":

— Мы йграем спецыфічную музыку — для малых інструментальных складаў. Тое, што пастаянна знаходзішся "навідавоку", вымушае многа займацца. Магчыма, гэта дапамагло ў конкурсе.

Але ў цэлым Алег не задаволены сваім выступленнем, лічыць, што недастаткова раскрыўся як музыкант, хаця і рады, што не застаўся незаўважаным журы. Цікавая дэталь: у Алега якраз нарадзіўся сын. Таму віншавалі лаўрэата і як маладога бацьку.

Аляксей Фралоў — яшчэ студэнт акадэміі, любіць барока і шмат чытае пра гэтую эпоху. Нават пра свой інструмент, фагот, ён мысліць як пра барочы. На конкурсе ж яму асабліва ўдаўся II тур, што адзначылі нават канкурэнты. Аляксей тлумачыць сваю ўдачу музыкай, якую выконваў:

— Мне вельмі падабаецца канцэрт Франсэ — тонкі, густоўны імпрэсіяністычны твор, які грае рознымі адценнямі (чымсьці нагадвае радок з М. Багдановіча: "Кладуцца цені на паляны праз лісцяў сець"). Не можа пакінуць абыякавым шыкоўная бліскучая музыка Тарыяні (Дывертысмент на тэмы Даніцэці), якая б частка ні была — ці то феерычная кадэнцыя, ці то прачулая кантылена.

Цяпер — пра флейтыстаў. I прэмію атрымаў Мікалай Папоў, першакурснік Пецярбургскай кансерваторыі. Саліст камернай філармоніі, Мікалай шмат часу аддае дзецям, іграць для якіх цікава й складана адначасова, бо дзеці заўсёды патрабуюць натуральнасці. Мікалаю вельмі прыемна было слухаць іншых выканаўцаў:

— Конкурс — гэта не спорт, а перш за ўсё фестываль, дзе кожны раскрывае сваё адчуванне музыкі.

Калі йграў сам М. Папоў, слухачоў уражвалі цудоўны гук, гнуткасць і пластычнасць фразы, філігранная тэхніка, адухоўленая па-юнацку свежым і жывым пачуццём.

Лаўрэат II прэміі С. Картэс (V курс БАМ), колішні ўдзельнік рэспубліканскага, міжрэспубліканскага і міжнароднага конкурсаў, лічыць, што сваім поспехам абавязаны педагогу Н. Аўраменцы і канцэртмайстру В. Сідараву. У час узнагароджання Сяргей падзякаваў ім абаім са сцэны і, нечакана для ўсіх, падзяліў сваю валютную прэмію на тры роўныя часткі, выклікаўшы шумную і радасную падтрымку залы. Што да выканальніцкай манеры С. Картэса, адзначым лёгкасць вядзення гуку, зграбнасць штрыха, тонкасць эмацыянальнага малюнка.

Трэцяе месца падзялілі кіеўскі флейтыст М. Белаш і М. Табурэткіна з Пецярбурга. Заўважым, што ў адрас Марыі Табурэткінай — яна была дапушчана да конкурсу як выключэнне, бо ёй 16 гадоў, а ўзроставы цэнз 18—27 гадоў — былі самыя захопленыя водгукі. Яе, лаўрэата юнацкага конкурсу ў Пецярбурзе (1992 г.), чулі ўжо ў Венгрыі, Германіі, Італіі.

Для музыкантаў кожны з трох тураў конкурсу быў па-свойму напружаны. Аднак складаная конкурсная праграма дала магчымасць усім удзельнікам усебакова паказаць сябе, выконваючы музыку Вівальдзі і Моцарта, Шпора і Тэлемана, Дзянісава і Цыбіна... Дзякуючы конкурсу рэпертуар для драўляных духавых інструментаў папоўніўся творамі беларускіх аўтараў. (Дарэчы, аматары сучаснай беларускай музыкі могуць набыць опусы Г. Ермачэнкава і Г. Гарэлавай, выдадзеныя Беларускім інстытутам праблем культуры, у нотнай краме па вул. Леніна).

А хіба не цікавыя меркаванні саміх лаўрэатаў пра новую музыку!

А. Даннік пра "Паэму" для фагота solo:

— Дзякуй Генадзю Ермачэнкаву за арыгінальную таленавітую п'есу, багатую эфектнымі знаходкамі. Спадабаўся спецыфічны прыём — імітацыя акордаў на фагоце.

М. Табурэткіна пра "Пастараль" для флейты Г. Гарэлавай:

— Працавала над творам з задавальненнем, бо п'еса разнявольвае фантазію, падштурхоўвае да нечаканых паваротаў.

М. Белаш убачыў у "Пастаралі" "адыходзячую медытацыю" (дарэчы, ягонае выкананне сама кампазітар назвала адным з найлепшых).

Своеасаблівае меркаванне В. Іванова пра Санату У. Дамарацкага для кларнета:

— Сучасная музыка — няўдзячная праца для музыканта (удакладнім, што твор быў напісаны ў 1984 г. з нагоды іншага духавога конкурсу). Цяжка адразу зразумець самому і тым больш давесці слухачам галоўную думку кампазітара. Але паступова, калі зжываешся з творам, "увайграешся" ў яго, — знаходзіш у ім блізкае для сябе і нават адчуваеш задавальненне пры выкананні. Саната Уладзіміра Дамарацкага — цікавы твор. Тут ёсць што пайграць — і ў плане кантылены, і ў плане тэхнікі.

І, нарэшце, адзначым, што пры арганізацыі гэтага фестывалю яго творцамі кіравала жаданне паслухаць маладых музыкантаў, якія толькі выходзяць на самастойны шлях, толькі пачынаюць сваё творчае жыццё. Таму конкурс для іх адначасова і праверка, і падтрымка. Журы ўвяло некалькі заахвочвальных дыпломаў для найбольш прыкметных выканаўцаў на I і II турах. Спецыяльна былі ўзнагароджаны яркія канцэртмайстры.

Высветліў конкурс і ценявыя бакі ў выкананні кожнага музыканта, асэнсаванне і пераадоленне якіх вымагаюць значнага часу. Прафесар У. Будкевіч заўважыў, што ўсе інструменталісты мусяць настойліва працаваць, дамагаючыся прыгожага гуку, штрыхавой культуры і, галоўнае, уважліва ставячыся да аўтарскага тэксту.

Мы жадаем поспехаў усім удзельнікам конкурсу: перад імі — вялікі свет мастацтва, у якім столькі шляхоў да майстэрства і творчых дасягненняў!

**Святлана ЗМІЕЎСКАЯ,**
**Кацярына СЯДОВА,**
**студэнткі Беларускай акадэміі музыкі**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

---

заўсёды пазбягае нацягнутасці дзеяння. У плыні падзей дзе-нідзе адчуваецца празмернасць сацыялагічных ды біялагічных акцэнтаў. Аднак твор па сутнасці сваёй аказвае магічнае ўздзеянне.

Становішча, у якім апынуліся героі п'есы, жудаснае. І жудаснае яно, трэба заўважыць, перш-наперш тым, што ўціснула чалавека, узвысілася над ім, ператварыла яго ў свайго раба. Невыпадкова менавіта галава сям'і — Сымон, душэўны стан якога вызначае эмацыянальна-псіхалагічную канву твора, у роспачы прызнаецца: "Я так ужо зжыўся, зрадніўся з сваім брудам-бядой, што мне страшна глядзець на ўсё чыстае, харошае..." Трагізм жыцця ўступае ў супярэчнасць з трагічнай сітуацыяй выбару. І гэтую супярэчнасць драматург лейтматывам праводзіць праз усе вобразы, даючы ім магчымасць для самаразвіцця.

Таксама сямейная калізія выступае вонкавым праяўленнем драматычнага канфлікту ў п'есе "Цені". Але тут сацыяльна-побытавыя матывы прысутнічаюць выключна ў ягонай перадаснове. Унутраны, дзейсны пачатак драмы цалкам фарміруецца пад уздзеяннем няведамых пачуццяў, таямнічых сіл, якія ўсё больш і ўсё шчыльней агортваюць душу кожнага героя і фактычна яе вынішчаюць.

Сённяшні зварот тэатра да п'ес "Страхі жыцця" і "Цені" бачыцца сімптаматычным. Гэтыя творы прасякнуты балючым адчуваннем крызісу, разлому, калі абрынуліся ўсе маральныя ўстоі. Калі наперад выйшлі і запанавалі сумніцельныя каштоўнасці. Калі чалавек-асоба апынуўся на злавесных расцяробах у поўнай адзіноце. Ці не тое ж адбываецца з намі цяпер?..

Ёсць свая логіка — ужо логіка мастацкая — і ў тым, што пастаноўка М. Трухана аб'ядноўвае "Страхі жыцця" і "Цені" ў адзінае сцэнічнае дзейства. У структуры абедзвюх п'ес можна адзначыць несумненнае падабенства асобных сюжэтных ліній. Так, функцыянальна і па змесце вельмі блізкія вобразы Сымона і Сцяпана (персанаж Бацька). Арганічная сувязь характараў Казюка і Матыльды праяўляецца нават тэкстуальна. Калі Казюк даводзіць, што "і ў муках радасць ёсць", дык Матыльда запэўнівае, што "ў смерці, таксама як і ў жыцці, ёсць хараство".

Працуючы над уласнай сцэнічнай версіяй (шкада, што адпаведная ёй назва не знойдзена), рэжысёр падкрэслівае і ўзбуйняе адзначанае падабенства. Сымон-Сцяпан становіцца сімвалічным увасабленнем вінаватага без віны, ахвяры па прымусу і ката міжволі. Адпаведнасць натур Казюка і Матыльды эмацыянальна замацоўваецца агульнымі вынікамі іхняе дзейнасці. У пастаноўцы дапамога Казюка і "дэманічныя" ўчынкі Матыльды аднолькава разбуральныя.

Мастацкая абумоўленасць спалучэння двух твораў выразна раскрываецца і ў агульнай атмасферы спектакля. Гэта асабліва важна адзначыць, бо пастаноўка носіць адкрыта імпрэсіяністычны характар. Агульнаму тону, агульнаму каларыту сцэнічнага дзеяння надаецца выключнае значэнне.

На сцэне абазначаюцца дзве ігравыя пляцоўкі (мастак Віктар Стрэчын). На адной разыгрываецца драма "Страхі жыцця", на другой — "Цені". Гэткім чынам дадаткова ствараецца драматургія эпізодаў. Па рэжысёрскай задуме, іхняя змена, сутыкненне, паралельнае прадстаўленне павінны служыць своеасаблівым падтэкстам у сцэнічнай кампазіцыі.

Трэба прызнаць, што задума даволі кідка заяўляецца і досыць пераканаўча рэалізуецца ў спектаклі. Хвалюючае ўражанне пакідае пралог, пабудаваны на падсвядомай сувязі рэплік з дзвюх п'ес. У той жа час бянтэжыць фармальнае, штучнае выкарыстанне асобных прыёмаў (больш за ўсё касцюміраваныя сцэны "а ля П'еро"). У нейкай ступені пастаноўцы бракуе роўнасці ўвасаблення. Пэўна, адбіваецца і супраціўленне самога літаратурнага матэрыялу (асабліва "Страхаў жыцця").

Абраная форма спектакля жорстка дыктуе характар дзеяння і спосаб акцёрскага выканання. Дыктат формы выканаўцы арганічна прымаюць і напаўняюць яе энергіяй жывога пачуцця. Кожнай ролі ўласціва свая, адметная мелодыя. На мой суб'ектыўны пагляд, найбольш дынамічна яна гучыць у ігры Святланы Яцэвіч (Юзя) і Генадзя Гатоўчыца (Алесь), у дуэце Тамары Міронавай (Марыя) і Ігара Падлівальчава (Міхась). Мо таму, што створаныя імі вобразы пазначаны характэрнымі дэталямі.

Значнае месца ў вобразнай сістэме спектакля займае музыка (музычнае афармленне Алены Вішнеўскай). Урыўкі з твораў Моцарта, А. Шнітке, Д. Шастаковіча істотна пашыраюць межы эмацыянальнага ўздзеяння. Праўда, у асобныя моманты неабходная раўнавага губляецца, і тады музыка пачынае ўспрымацца незалежна ад падзей спектакля. Цэласнасць пастаноўкі парушаецца.

Спектакль "Страхі жыцця. Цені" выклікае нешараговую цікавасць, вылучаецца адмысловай сцэнічнай мовай. Не ўсё ў ім можна адназначна прыняць, але агульнае ўражанне, безумоўна, гэтая работа пакідае глыбокае. Шлях, па якім пайшоў М. Трухан у трактоўцы твораў Ф. Аляхновіча, прымушае на многае — у жыцці і ў тэатры — паглядзець новымі вачыма. Плён, які цаны не мае.

**Ала САВІЦКАЯ**

---

# НА ДНЯХ... ЗАГАВАРЫЛА



Да драматургіі Яўгена Шварца заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч звяртаецца ўжо другі раз. Некалькі гадоў назад на слонімскай сцэне ён паставіў спектакль "Два клёны". Сотні тысяч дзяцей нашай рэспублікі паглядзелі гэтую пастаноўку, якая мела вялікі поспех і ў юных, і ў дарослых гледачоў.

Ёсць у Яўгена Шварца вядомая п'еса-казка "Чырвоная шапачка". Літаральна на днях сама "Чырвоная шапачка" загаварыла па-беларуску і на сцэне Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Яе ролю сыграла Іна Ёрш. У спектаклі заняты таксама Т. Натарава, У. Навумік, В. Сявец, В. Шчарбакоў, А. Прэдка, Н. Жукоўская, А. Савушкін.

Пераклад на беларускую мову зрабіў Алесь Карлюкевіч, тэксты песень пераклаў Віктар Шніп.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*На здымку: сцэна са спектакля "Чырвоная шапачка".*

## АПОШНІ ПАРТРЭТ



**Берасцейская культура панесла вялікую страту. Летась памёр выдатны мастак-партрэтыст, майстар кампазіцыі Іван Якаўлевіч Фяцісаў. Ён неаднойчы ўдзельнічаў ва ўсесаюзных і замежных выставах, яго творы захоўваюцца ў многіх музеях рэспублікі. Мастак пісаў рабочых, калгасніц, стварыў шэраг краявідаў беларускага Палесся. Станковыя кампазіцыі прысвяціў тэме Айчыннай вайны і сучаснасці: "Памяць", "Разведчыкі", "Ганаровыя грамадзяне", "Пераемнасць", "Афганцы" і г. д.**

**Іван Якаўлевіч адным з першых, як мастак, падняў у вобласці музейную справу да ўзроўню грамадскай культуры, ім створаны лепшыя музейныя экспазіцыі Брэста.**

**Ветэран вайны і працы не дасягнуў 74-х гадоў. Апошнім часам адчуваў творчы ўздым. За месяц да смерці напісаў аўтапартрэт — гэта апошні яго твор. Партрэт сціплы па колеры і моцны ў танавых адносінах, у ім няма парадпасці і афіцыёзнасці.**

**У мастака, як вядома, усё жыццё — экзамен: твор за творам, выстава за выставай. Апошні вялікі экзамен вытрымаў Іван Якаўлевіч у сваё семідзесяцігоддзе: персанальнай выставай яшчэ раз даказаў, што ён мастак з вялікай літары.**

**Пётр ЗАРЭЦКІ,**
**член Саюза мастакоў Беларусі**

*На фотаздымку: аўтапартрэт мастака.*

## "...І НЕ ПАКІНЕ НАС РЫЦАР ДРАЎЛЯНЫ"

**Новая назва з'явілася на снежаньскай афішы Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне — "Драўляны рыцар" па аднайменнай п'есе С. Кавалёва, вызначаны як мюзікл. Казачную гісторыю ў двюх чароўных дзеях, адрасаваную ў першую чаргу падлеткам, распавялі са сцэны рэжысёр В. Растрыжэнкаў, мастак Я. Волкаў, кампазітар А. Залётнеў, балетмайстар А. Кудраўцаў, а таксама акцёры Т. Юрык, В. Шэндрыкаў, Д. Глазычаў, І. Кляпацкая, В. Багушэвіч, Я. Іўковіч, Р. Цыркін, А. Слабодчыкава. Тэксты шматлікіх песнь належаць Г. Булыцы, В. Растрыжэнкаву і М. Шабовічу.**

**М. Ш.**

## "РОДНАЕ СЛОВА", НУМАР ДВАНАЦЦАТЫ

**Гістарычныя драмы І. Чыгрынава аналізуе ў артыкуле "Каб не быць манкуртам" Т. Грамадчанка. Да 60-годдзя пісьменніка змешчаны таксама фотарэпартаж "Ішоў па зямлі чалавек". Да 90-годдзя з дня нараджэння А. Дудара прымеркаваны артыкулы І. Багдановіч "Будучыня з сінімі крыламі" і У. Міхнюка і Р. Платонава "Трагічны лёс паэта" (архіўна-дакументальныя сведчанні аб жыцці і творчай дзейнасці паэта). Тут жа друкуецца некалькі вершаў А. Дудара. М. Прыгодзіч расказвае пра першага даследчыка беларускай мовы, рускага філолага К. Калайдовіча ("В нем скрываются драгоценные остатки древнего языка славянского..."), прапануецца адзін з артыкулаў даследчыка. У раздзеле "Культура Беларусі" выступаюць Т. Шамякіна ("Па зямлі ходзіць, а неба не бачыць... Вобраз свінні ў сусветнай культуры") і Я. Шунейка ("Вяскоўцы як антычныя багі... Новы погляд на карціну Францішка Смуглевіча "Літоўскія сяляне"). Да 100-годдзя з часу выхаду ў свет зборніка Ф. Багушэвіча "Смык Беларускі" з артыкулам "І мы зробім музыку..." выступае У. Содаль.**

# І ПАД КУЛЮ ЗЛАЧЫНЦЫ...

*(Пачатак на стар. 5)*

— І гэта, і — абыякавасць, імкненне жыць па правіле "мая хата з краю".

**— А па тэлефоне ўсё-такі звоняць?**

— Па тэлефоне бывае сякую-такую інфармацыю мы атрымліваем. І гэта ў той час, калі на Захадзе законапаслухмяныя грамадзяне лічаць сваім абавязкам паведаміць паліцыі ўсё, што яе цікавіць у час крымінальнага расследавання. І часта гэта робяць па ўласнай ініцыятыве. Справа ў тым, што, у адрозненне ад краін з устойлівай дэмакратыяй і прававым парадкам, у нас няма закона аб абароне сведкаў. Вось чаму такія частыя выпадкі, калі сведка, даўшы паказанні ў час следства, потым, на судзе, адмаўляецца ад іх, або наогул на судовае пасяджэнне з'яўляцца не хоча.

**— Усё, відаць, тут не так проста. Не той менталітэт. І да таго ж у нашай масавай свядомасці здаўна ўкаранілася — супрацоўніцтва з праваахоўнымі органамі прыстойнаму чалавеку не да твару. І потым, адкуль было ўзяцца іншаму, мы ж ніколі не жылі ў прававым грамадстве, дзе з дзяцінства выхоўваецца павага да закона.**

— Пакуль так будзе, сур'ёзных зрухаў у барацьбе са злачынствам нам не бачыць.

**— Міхаіл Сямёнавіч, шырока распаўсюджана думка, што рост злачыннасці напрамую звязаны з прапагандай у нас насілля, сексу на тэлеэкранах, на старонках спецыфічных выданняў. Я заўсёды задаюся пытаннем: чаму ў тых жа Даніі, Англіі ці Бельгіі, дзе няма ніякіх забарон на падобную прадукцыю, тым не менш досыць нізкі ўзровень злачыннасці? Я нядаўна прачытаў, што ў Англіі, напрыклад, з яе насельніцтвам амаль у 50 мільёнаў чалавек за год адбываецца толькі крыху больш за 500 забойстваў. У разліку на 100 тысяч насельніцтва гэта ў дзесяткі разоў меней, чым у нас.**

— Ці развівае злачынныя схільнасці, скажам, у таго ж падлетка ўбачанае на тэлеэкране забойства ці згвалтаванне? Сур'ёзных сацыялагічных і псіхалагічных даследаванняў на гэтую тэму я не сустракаў. Заўсёды скептычна стаўлюся да заяў некаторых забойцаў, што, маўляў, на злачынства яго падштурхнуў нейкі там "круты" герой фільма, у якога ён запазычыў і, так сказаць, тэхналогію забойства. Нягоднік так гаворыць, каб спіхнуць з сябе частку адказнасці за зробленае злачынства. Хоць я поўнасцю і не выключаю пэўнага ўплыву падобнай прадукцыі на псіхіку чалавека. Але, зноў-такі, чалавека пэўным чынам выхаванага. Адзін глядзіць і ўпітвае ў сябе бачанае як губка, а другі праз мінуту забываецца пра ўсё ўбачанае.

Што датычыць сучаснай дэтэктыўнай літаратуры: газет, часопісаў, кніжак з апісаннем самых розных, у тым ліку і жорсткіх злачынстваў, дык тут выкажу, я думаю, не вельмі папулярную думку. Пагаджаючыся з крытыкамі наконт нізкага мастацкага ўзроўню падобнай літаратуры, я, тым не менш, хачу адзначыць і яе пэўную ролю ў прафілактыцы злачынстваў. Тут дзейнічае эфект папярэджання. Чытачу ўбіваюць у галаву такія, здаецца, вядомыя, але і патрэбныя ісціны: што нельга запрашаць дахаты для кампаніі незнаёмых людзей, што дзеці часта становяцца ахвярамі гвалтаўнікоў, якія спакушаюць іх рознымі падарункамі, што маладыя дзяўчаты і жанчыны, бывае, самі правакуюць злачынствы на сексуальнай глебе і г. д.

**— Спадзяюся, у нас сваіх чыкацілаў няма?**

— Няма, хоць летась і быў затрыманы нягоднік, які паляваў на дзяўчынак-школьніц. Падпільнаваўшы будучую ахвяру каля дзвярэй, калі яна адчыняла іх сваім ключом, і даведаўшыся ад наіўнага дзіцяці, што бацькі на працы, ён уваходзіў у кватэру "папіць вады" і гвалціў. Праўда, пакідаў у жывых.

**— Дарэчы, па якім артыкуле Крымінальнага кодэкса "праходзіць" прастытуцыя?**

— У Крымінальным кодэксе нашым няма вызначэння прафесійнай прастытуцыі. І калі "жрица любви" вельмі ўжо кідаецца ў вочы міліцыі, парушае правапарадак, самае "страшнае", што яе чакае, — адміністрацыйнае пакаранне, напрыклад, грашовы штраф. Тым не менш, у мінулым і пазамінулым гадах мы выкрылі ў Мінску некалькі "масажных" кабінетаў, а папросту — дамоў спаткання, куды суценёры вярбавалі маладзенькіх дзяўчат, якія аказвалі кліентам рознага роду інтымныя паслугі. На трох ці чатырох суценёраў былі заведзены крымінальныя справы, і яны пасля судовага разбіральніцтва трапілі за краты.

**— Раскрыццё злачынства, звязана, як я разумею, з вялікай аналітычнай працай. Я чытаў, што ў многіх паліцыях свету існуюць буйныя аналітычныя цэнтры, аснашчаныя самай сучаснай камп'ютэрнай тэхнікай. А як з гэтым справы ў нас?**

— Пры Мінскай крымінальнай паліцыі створаны аддзел, дзе аналізуюцца найбольш цяжкія і складаныя злачынствы. Але ў аператыўным плане, па гарачых слядах. Аналітычнага цэнтра ў шырокім сэнсе гэтага паняцця, дзе б сістэматызавалася вышуковая праца, распрацоўвалася яе методыка, вывучаліся сацыяльныя і псіхалагічныя аспекты крыміналагеннай сітуацыі ў горадзе, у нас няма. Вось менавіта такая служба і павінна была б даць адказ на такое, прынамсі, пытанне — чаму кастрычнік і лістапад мінулага года даў такі рэзкі ўсплёск забойстваў?

**— І ўсё-такі, ад чаго залежыць поспех у раскрыцці злачынства?**

— Мой уласны больш як 15-гадовы стаж працы сышчыкам сведчыць аб тым, што чым хутчэй выязджаеш на месца здарэння, адным словам, чым хутчэй бярэшся за справу, тым больш шанцаў атрымаць станоўчы вынік. Тое, што ты ўбачыў, заўважыў у першыя гадзіны пасля таго ж забойства, ты ўжо не ўбачыш праз трое сутак. І не пачуеш таксама. Я маю на ўвазе сведкаў, якія ўжо праз некалькі дзён не помняць таго, што заўважылі адразу.

**— Кажуць жа, маніць — як відавочца?**

— Але са сведчанняў некалькіх відавочцаў можна ўсё-такі скласці рэальную карціну здарэння. Ну, вядома ж, многае, нават ці не галоўнае залежыць ад узроўню прафесіяналізму, вопыту сышчыка. А гэта сёння адно з самых слабых месц у нашай рабоце. Мяркуйце самі — 80 працэнтаў супрацоўнікаў крымінальнага вышуку маюць стаж ад года да трох. Якія ж з іх сышчыкі?

**— Але ж вы, Міхаіл Сямёнавіч, казалі, што ў вас нямала і высокапрафесійных дэтэктываў.**

— Так, але не шкодзіла б мець іх больш. Наогул, кадравая праблема ў нас досыць вострая. Асабліва не затрымліваецца ў нас моладзь — учарашнія выпускнікі міліцэйскай акадэміі, юрыдычных факультэтаў ВНУ. Начытаўшыся ў юнацтве розных дэтэктыўных гісторый, яны, сутыкнуўшыся з жыццёвымі рэаліямі, а нашаму брату даводзіцца мець справу не з лепшай, як вы разумееце, часткай чалавецтва, яны адразу пасуюць. І потым, у дэтэктыва, як кажуць, "ні выхадных, ні прахадных". І паспрабуй такому маладому работніку з дня ў дзень выслухоўваць папрокі жонак, якія, калі іх ушчуванні не дзейнічаюць, пачынаюць званіць мне — прыміце меры да вашага работніка, які амаль не бывае дома, пераклаўшы выхаванне дзяцей і ўсе хатнія справы цалкам на мае плечы...

**— Як аплачваецца сёння праца дэтэктыва?**

— Думаю, менш, чым вадзіцеля тралейбуса. Таму і ідуць ад нас людзі. На вялікі жаль, і высокапрафесійныя.

**— Куды?**

— А хоць бы ў тыя ж камерцыйныя структуры, дзе такія людзі на вагу золата. Вы ж, відаць, чулі, што ў Мінску створана некалькі прыватных ахоўных фірм, дзе плацяць у некалькі разоў больш, чым у нас. Застаюцца самыя выпрабаваныя, самыя сумленныя, самыя адданыя справе. Тыя, што гатовы і пад кулю злачынцы...

**— Дзякуй вам, Міхаіл Сямёнавіч, за шчырую гутарку.**

# У ГАСЦЯХ

*(Пачатак на стар. 9)*

на святле з акна, убачыў кроў. Вырваў пук роснай травы, прыклаў да раны. Пасядзеў трохі на карачках тут, пад плоцікам, нават прыдрамнуў — і заснуў бы, відаць, каб не камары. Пачуўшы жывога чалавека і кроў, як звар'яцелі, не давалі спаць...

Азіевіч трохі працверазеў ад халоднай зямлі і начнога туману. Падняўся, пайшоў, хістаючыся, у хату. У хаце яшчэ гарэла святло. Настаўнік сядзеў, як і сядзеў, на сваёй табурэтцы, глядзеў перад сабою. Чуўся голас Лены; мабыць, усё не магла супакоіць малую.

Настаўнік падняў галаву, убачыў скрываўленую руку госця — Азіевіч так і зайшоў у хату, прыціскаючы да раны траву, азваўся неяк вінавата:

— Пасядзі, зараз ёд прынясу...

Выйшаў, вярнуўся з бінтам, ёдам, перавязаў руку.

— А цяпер кладзіся спаць, — і правёў Азіевіча, памог яму распранупца і выйшаў, шчыльна зачыніўшы дзверы.

Назаўтра, у нядзелю, прачнуўшыся, Азіевіч сеў на ложку і паспрабаваў успомніць, што ж учора адбылося. Не ўспомніў. Ведаў толькі, што ўчварыў ён учора штосьці гадкае, непрыемнае, але што — хоць забі, не мог узяць у толк. З Ленаю штосьці? Магло быць... З настаўнікам пабіўся? Было нешта... Рука забінтаваная... Ён развязаў бінт, глянуў — зусім маленькая драпіна, засохла ўжо.

Так і не ўспомніўшы, Азіевіч, аднак, цвёрда ведаў — больш яму тут заставацца нельга, трэба ехаць. Зараз жа. А як развітацца, паказацца на вочы?.. Хоць праз акно вылазь!..

Толькі дарэмна ён баяўся. Калі, як шкадлівы кот, ён адважыўся высунуцца са сваёй баковачкі, прытупаў у меншую хату, яго ўжо зноў чакаў сабраны свежымі закускамі стол і слоік самагону. Лена сказала яму "добрай раніцы" і падала чысты ручнік. Азіевіч выйшаў на двор, плёхнуў з рукамыйніка вадою на твар, абцёрся і вярнуўся ў хату. За сталом, бачачы, што настаўнік з жонкаю паводзяць сябе, як заўсёды, Азіевіч, кульнуўшы пару чарак, хутка асвоіўся, асмялеў і пачаў расказваць, што акурат пад вечар прыедзе сёння ў Мінск, памяняе "баксы", зловіць "таксоўку" і "закоціцца ў "Сосны"...

— Пабылі б яшчэ, — папрасіла Лена.

— І на рыбалку не схадзілі, — падтрымаў яе настаўнік, чамусьці адводзячы вочы.

— Не, даруйце, не магу! — Азіевіч ужо ўяўляў сябе ў "Ікарусе", як сядзе каля акна, ды каб яшчэ "цёлка"-студэнтка якая знайшлася ў спадарожныя... Дурань, плэер не ўзяў!

Паснедаўшы, падзякаваў, пацалаваў Лене ручку. Настаўнік сабраўся яго праводзіць. Толькі малую ніяк не змаглі прымусіць падысці развітацца з дзядзькам — баранілася, ціснулася да маці...

Пайшлі. Каля веснічак настаўнік спыніўся і ляпнуў сябе даланёю па лбе:

— Пастой! — пабег, вярнуўся, пачаў піхаць Азіевічу нешта закручанае ў газету. — Вазьмі, тут пару ляшчоў сухіх, карп, у Мінску, з півам...

Азіевіч узяў.

— Слухай, — спытаў ён, — што я ўчора рабіў? Забі мяне, разапні — нічога не помню!

— Ды забудзь! П'яныя! — горача загаварыў настаўнік. — Нічога ты не рабіў! І слухай — прыязджай, калі зможаш, калі захочаш! Добра? Ты ж ведаеш, як Лена, як я да цябе... Малая таксама... — тут настаўнік змоўк, павярнуў галаву бокам, прыслухоўваючыся. — "Баранавічы — Жытомір", — сказаў ён і зірнуў на гадзіннік.

Азіевіч паабяцаў, што абавязкова прыедзе яшчэ, папрасіў далей яго не праводзіць (настаўнік паслухаўся), і з пакункам пад пахаю пайшоў сабе да блізкага аўтобуснага прыпынку.

